# ЦАРКОЎНЫ ПАСЛАНЕЦ



БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

ПАВЕДАМЛЕНЬНІ ПАРАХВІЯЛЬНАЕ РАДЫ

КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

CHURCH MESSENGER, P.O. BOX 5982, SOMERSET, N.J. 08875-5982

ГОД 18/24 ЛЕТА-ВОСЕНЬ 1996 2-3/39-40/49-50


## УЗНОЎ ДА БАБІЛЁНСКАЕ ВЕЖЫ

У Сьвятым Пісьме, ці йнакш Біблії, калі ня цікавіцца ёю як зборнікам пабожных казкаў, а шукаць у ейным зьмесьце Божае Мудрасьці, што натхняла годных людзей злажыць гэты твор, можна знайсьці ці-мала адказаў на праблемы й балячкі, што кваляць прыватнае ў кожнага з нас, або нацыянальнае ва ўсіх разам жыцьцё.

Сёньня, у пару, калі нацыянальная бяда ня толькі ўзяла верх над прыватнымі жыцьцёвымі клопатамі, але й стала маткаю амаль ці ня ўсіх іх, варта падзівіцца ў Біблію ды пашукаць у ёй падыходных словаў да таго, што дзеецца ў нашым Краі.

У пошуку гэткага мейсца ў біблійных сказах, сам па сабе прыходзіць на думку згад праз сусьветны патоп і ягонае прыраўнаваньне да тае паводкі, што большую частку стагодзьдзя была затапіўшы нашыя землі.

Гэтай паводкай была ўлада расейскага камунізму, што нішчыла як нацыянальнае, гэтак і наагул людзкое жыцьцё.

Біблійны Ной зь ягоным родам, аднак, калі скончыўся патоп, зыйшоў з выратавальнага плыўна на падсохлую й гатовую да ўрабляньня зямлю, а наш Народ зь віру апынуўся ў гразі, бо былая ў нас паводка яшчэ далёка ня зусім адкацілася.

Ды нават недалёкія Ноявыя нашчадкі, здавалася-б, навучаныя прыкладам страшное кары за недагоднае Богу жыцьцё, абняўшы ачышчаную й усычаную паводкавай вадою зямлю, ня прысьвяцілі ўсіх сваіх натугаў на тое, каб з удзячнасьцяй за ратунак яе ўрабляць, а пачалі марнаваць сілы й дабро на мудраваньне, як забясьпечыцца ад новага заліва.

Зусім, як некалі Ноявых нашчадкаў ліхія спакусьнікі намовілі будаваць вежу, каб дастаць неба да схову, нас таксама атоўстлыя раней на жыры з паводкавых віроў нелюдзі пераконваюць і палохаюць, што нягожа займацца палепшаньнем свайго жыцьця, а годна й разумна аддаць майнасьць і жыцьцё на ратунак ад загубы, якая, яны кажуць, адно й чакае, каб рушыць на нас з захаду сонца.

А гэтым ратункам, ці новаю Бабілёнскай вежай, паводле іхных словаў, будзе ачолены Масквою магутны й неперамоясны хаўрус, або супольства, а яшчэ лепш задзіненьне славянскіх народаў, у якое, пры нястачы іншых ахвотнікаў, павінны неадкладна ўвайсьці беларусы й украінцы.

Памятныя, аднак, на тое, што Бабілёнская вежа не ўзьнялася высока ад зямлі, бо Бог, падзяліўшы гутарку будаўнікоў на розныя мовы, абярнуў у нішто іхныя неўпадобныя Яму намеры, пачынальнікі новае гэткае вежы, імя якой - Расейская імпэрыя, усялякімі нягоднымі спосабамі намагаюцца зьнішчыць усе іншыя, апрача расейскае, мовы й нацыянальныя асаблівасьці суседніх зь імі славянаў, ды гэткім чынам, усупраць Божае волі, вярнуць хоць падуладную ім частку чалавецтва ў папярэдні да Бабілёнскае будовы стан.

А, каб даць гэтай злачыннай мане від на павагу й зрабіць яе прынаднай, на падмогу прыцягаюцца здаўнія й выпрабаваныя слугі жахнога маскоўскага самадзяржаўя, ды захопніцтва - герархі й духаўнікі Расейскае Праваслаўнае Царквы зь іхнай, прыхаванай пад пабожнымі хрысьціянскімі словамі, расісцкай ідэалёгіяй.

І льюцца з амвонаў, з вусных і пісаных зваротаў рэкі павучэньняў хамскае непашаны да бацькоў і іхнае спадчыны, грэблівасьці да Богам дадзенае роднае мовы, ды рабскае падлізнасьці й выслужнасьці чужому.

Ды йдзе з ухвалаю й удзелам гэтых нябожых слугаў адкрытае, ды ўтоенае змаганьне нятолькі супраць нядаўна адно ўзноўленае дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі, але й далейшага йснаваньня Беларускага народу.

Завяршэньнем усіх безсаромных круцельстваў і відных, ды схаваных прымусаў, уваччу гэтых паклонных ня Богу, а "Руси" йлжэ-пастыраў і паможных ім беларускіх зраднікаў, было падпісаньне 2-га красавіка ў іхнай прысутнасьці ў Крамлі дамовы на ўлучэньне Беларусі ў Расею.

Завяршэньне ў кожнай людзкой справе бывае, аднак, толькі тады, калі яно даспадобы Богу ды ўдагоду Ягонай волі.

Таму, калі ўветаш Бог не дазволіў узьняцца першай Бабілёнскай вежы, што ня была па Ягонай мысьлі, дык і самай апошняй, стаўлянай у новым Бабілёне, вежы - маскоўскай імпэрыі, як ці-адной ужо ўперад, Ён ня дасьць збыцца.

Бо, разьдзяліўшы людзкі род мовамі, Стварэц не пакараў гэтым за пачатную марнатратную будову, а даў навуку ўперш любіць, даглядаць і ўзбагачаць усё тое, што найбліжэй кожнага з нас, а гэта свой Народ, з усімі ягонымі з Найвышша дадзенымі асаблівасьцямі ды свой родны Край.

Калі-ж хто, нават і на Божае Ймя дарма паклікаючыся, на гэтую навуку не зважае, таго Бог моцна карае й абяртае ў нішто ягоныя супраціўныя намеры, як гэта паказвае, усеяная капцамі друзу на мейсцах усьлед за Бабілёнскай разбураных вежаў - імпэрыяў і пахаваных

пад руінамі іхных будаўнікоў, гісторыя.

Гэта наканавана Божай воляй і новай Бабілёнскай вежы - Маскоўскай імпэрыі й бяда таму, каго з блізкасьці да яе, яна, завальваючыся, ейным зрыньнем засыпле.

## АДПРАВЫ

### ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага

Сьв. Літургія ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне пачынаецца кожнае нядзелі, ад апошняе ў кастрычніку да апошняе ў красавіку , а 10-й гадзіне раніцы, а ўлетку а 9.00-й.

Сьвяты, што прыпадаюць у тыдні, калі не абвешчана загадзя йнакш, адзначаюцца ў найбліжэйшыя нядзелі.

Вячорныя адправы, дзеля цяжкасьці даезду вернікаў і кліру, часова спыненыя.

Кожнае нядзелі праз цэлы год, пачынаючы поўгадзіны перад пачаткам Сьв. Літургіі, можна спавядацца.

У гэтым самым часе, або яшчэ лепш на колькі дзён раней, можна таксама замаўляць паніхіды й малебны, ды падаваць сьпіскі імёнаў на ўспамінаньне.

Адрыс Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага: 401 Atlantic Avenue, Brooklyn, N.Y. 11217-1702 (corner Bond Street).

Даезд падземкай: A, C & G lines to Hoyt-Schermerhorn Station, lines 2, 3, 4 & 5 to Nevins Street Station.

Даезд з Лонг Айлэнд чыгункай LIRR to Flatbush Avenue Station, Brooklyn

Самаходам: па Brooklyn-Queens Expressway to Atlantic Avenue Exit.

НАВЕДВАЙЦЕ СВАЮ РОДНУЮ СЬВЯТЫНЮ!

## АРХІПАСТЫРСКІ НАВЕД У АНГЛІЮ

Ад 10-га да 22-га травеня г.г. Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў наведваў духавенства й вернікаў БАПЦ, ды Валійскую Праваслаўную Місыю ў Англіі.

Увечары 10-га травеня Ўладыку на лётаве ў Манчэстары сустрэла група вернікаў мяйсцовае парахвіі БАПЦ на чале з а. ппрсв. Янам Абабуркам, а гожая 6-ці гадовая Каця Міхалюк, апранутая ў беларускі народны строй, прывітала высокага госьця букетам кветак.

Уладыка затрымаўся ў гасьцінным доме сп-ва Віктара й Надзеі Міхалюкоў, дзе ў прыемных гутарках з гаспадарамі, а дзеінш у нарадах з а. Я. Абабуркам правёў колькі дзён.

Раніцай у нядзелю, 12-га травеня г.г., Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў ачоліў адправу Сьв. Літургіі ў манчэстэрскай парахвіяльнай царкве Жыраўскае Йконы Божае Маці, у якой суслужылі зь ім а. ппрсв. Ян Абабурка, новапрыйняты ў БАПЦ ігумен Дэніёл і а. Аляксандар Сідаровіч - беларускі сьвятар зь юрысдыкцыі Канстантынопальскага Патрыярха.

Падчас адправы хораша пяяў хор пад кіраўніцтвам сп. Рыгора Абабуркі.

Пасьля Божае Службы ў парахвіяльнай залі мяйсцовым сястрыцтвам быў прыгатаваны шчодры й смачны пачастунак, да якога засела немалая грамадка вернікаў і гасьцей.

Прынагоднае слова аб стане БАПЦ на Бацькаўшчыне й за мяжою сказаў падчас пачастунку Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў.

Рэдкая й урачыстая сустрэча йз сваім архіпастырам узьняла настрой прысутных і засталася ў іхнай памяці падбадзёраньнем да далейшага падтрымоўваньня свае роднае Царквы.

15-га травеня г.г. Уладыка Мітрапаліт накіраваўся ў Бленам, Фэстыньёг, што ў Валіі, на азнаямленьне з ачоленай ігуменам Дэніёлам Валійскай Праваслаўнай Місыяй і афіцыйнае ейнае прыймо ў юрысдыкцыю БАПЦ.

У вольным часе, што заставаўся ад зайняткаў царкоўнымі справамі, ігумен Дэніёл знаёміў Уладыку з навакольнымі, памятнымі з рэлігійных, ці гістарычных прычынаў мяйсьцінамі Валіі, якімі ён моцна ганарыцца.

Нямала-дзе Ўладыку й ігумена Дэніёла ветліва віталі парахвіяне, або знаёмыя апошняга, ці проста зацікаўленыя рэлігійнымі справамі мяйсцовыя людзі й выпытвалі, як праз БАПЦ, гэтак і праз Валійскую Праваслаўную Місыю.

Падчас аднае з гэтых экскурсыяў Уладыка з. а. Дэніёлам наведалі ў польскім старэчым доме 100-гадовую беларуску спад Кобрыня Вольгу Леванюк, якая вельмі ўзрадавалася з сустрэчы.

17-га травеня Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў зь ігуменам Дэніёлам езьдзілі ў Лёндан зь візытам да архіяпіскапа Грыгорыяса, што ачольвае юрысдыкцыю Канстантынопальскага Патрыярхату ў Англіі.

Архіяпіскап Грыгорыёс прыйняў Уладыку вельмі ветліва й у прыемнай ды працяглай гутарцы зь цікавасьцяй і зразуменьнем выпытваў праз стан, намеры й пэрспэктывы БАПЦ.

Дзеля даўжыні гэтае гутаркі не засталося, нажаль, часу на прадбачаную сустрэчу з ангельскімі прыхільнікамі беларускае справы й давялося перапрашаць іх па тэлефоне.

У нядзелю, 19-га травеня, адправіўшы наконадні вячорню й ранічню, Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў ачоліў службу Сьв. Літургіі у царкоўным памешканьні Валійскае Праваслаўнае Місыі.

У адправах з Уладыкам суслужылі: ігумен Дэніёл, а. ппрсв. Ян Абабурка, а. Олбан і дыякан Джон зь юрысдыкцыі Канстантынопальскага Патрыярха ды а. Дэніэл Джозэф з расейскае.

Падчас Божае Службы Ўладыка Мітрапаліт зьвярнуўся да вернікаў Валійскае Праваслаўнае Місыі й прыбылых з Манчэстару праваслаўных беларусаў з прынагодным словам у ангельскай мове, у якім, навязваючы да даты ўрачыстасьці, што выпала напярэдадні сьвята Жыраўскае Йконы Божае Маці, выказаў пэўнасьць на заступніцтва Знайвышняе Апякункі ў гэтай падзеі.

Далей Уладыка сказаў, што кожны народ, у тым ліку й Валійскі ды Беларускі, мае Богам дадзенае права мець уважлівую да ягоных асаблівасьцяў і спрыяльную да нацыянальных імкненьняў Праваслаўную Царкву.

Ідучы насустрач жаданьню праваслаўных Валійцаў скарыстаць з дабрадзействаў гэтага Богам дадзенага права ды наказу Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква й згадзілася узяць пад Ейную апеку Валійскую Праваслаўную Місыю.

Таму гэтая апека ня мае на мэце павялічэньня гэткім чынам самое БАПЦ, а толькі спрыяньне й дапамогу зь

Ейнага боку Валійскай Праваслаўнай Місыі вырасьці ў нацыянальную царкву Валійскага народу, і стаць разам ды ўпоравень зь іншымі Праваслаўнымі Цэрквамі.

Зьмест архіпастырскага слова моцна ўсхваляваў прысутных у царкве маленьнікаў і глыбока запаў у іхныя сэрцы.

Падчас Божае Службы гожа сьпяваў прыбылы з Манчэстару хор пад кіраўніцтвам сп. Рыгора Абабуркі.

Пасьля адправы ў місыйным памешканьні мяйсцовымі парахвіянкамі быў падрыхтаваны сьвяточны пачастунак, пры якім заселая за сталы немалая грамада дзялілася між сабою ўражаньнямі дня й паглядамі ў будучыню.

Назаўтра, сьвята зьяўленьня Жыраўскае Йконы Божае Маці Ўладыка Мітрапаліт адзначыў малітвай у Валійскай Праваслаўнай Місыі ў Бленам, а раніцай 21-га травеня г.г. накіраваўся цягнікам у Манчэстар.

Рэшту дня 21-га травеня зайнялі ўзрушальныя перад-ад'ездныя гутаркі з а. ппрсв. Янам Абабуркам, ігуменам Дэніёлам ды зь мілымі гаспадарамі - сп-вам Віктарам і Надзеяй Міхалюкамі, што гасьцінна прыймалі Ўладыку падчас ягонага побыту ў Манчэстары, за што ім належыцца глыбокая падзяка.

Раніцай 22-га травеня г.г. Уладыка Мітрапаліт адлящеў у Нью Ерк, але ўсьцешны сьлед толькі-што скончанага наведу надоўга застаўся ў ягонай памяці й у сэрцах вернікаў БАПЦ у Англіі.

## ХВАРОБА А. ППРСВ. ЯНА АБАБУРКІ

У пачатку ліпеня г.г. кіраўнік парахвіі БАПЦ у Манчэстары а. ппрсв. Ян Абабурка занядужаў на нямогласьць у левым баку й з тае пары знаходзіцца пад лекарскай апекай.

Адправы ў Царкве Жыраўскае Йконы Божае Маці ў Манчэстары, як толькі дазваляюць магчымасьці, выконвае кіраўнік Валійскае Праваслаўнае Місыі а. ігумен Дэніёл.

У Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, у дзьве па чарзе нядзелі пасьля атрыманьня весткі праз хваробу Чэсьці Годнага Айца, Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў адпраўляў малебны за ягонае здароўе.

Гэткія-ж малебны, у дзьве нядзелі сьледам за атрыманьнем трывожнае весткі, адпраўляў у Царкве Віленскіх Мучанікаў у Мэльбурне й а. ппрсв. А. Кулакоўскі.

Рада й Кансысторыя БАПЦ, Парахвіяльная Рада й вернікі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага, ды Рэдакцыйная Калегія "Царкоўнага Пасланца" просяць у Бога якнайхутчэйшага аздараўленьня занядужалага а. ппрсв. Яна Абабуркі й шлюць яму найлепшыя пажаданьні.

## СЬВЯТА Ў АДЭЛЯЙДЗЕ

14-га ліпеня парахвія Сьв. апосталаў Пятра й Паўла ў Адэляйдзе (Паўднёвая Аўстралія) адзначыла сваё парахвіяльнае сьвята.

Сьв. Літургію й малебен адслужыў пратаярэй а. Міхась Бурнос. Сьвяточнаму настрою спрыяла прыгожае ўбраньне царквы, добрае надвор'е, зладжаны сьпеў хору пад кіраўніцтвам У.Калесьніковіча й большая, як у звычайныя дні колькасьць людзей.

Урачысты малебен завяршыўся крыжным ходам вакол царквы.

Перад супольным абедам у царкоўнай залі прамовіў старшыня парахвіяльнае Управы У.Акавіты, які павіншаваў прысутных са сьвятам ды папрасіў ушанаваць хвілінаю маўчаньня ды ўстаньнем былых сяброў парахвіі, што ў свой час прыклалі свае сілы й сродкі на будаўніцтва храму й царкоўнай залі, ды ўжо адыйшлі на вечны супачынак.

Бласлявіў ежу а. Міхась Бурнос. У часе абеду гучалі тосты за Беларусь, за беларускі народ. Удзельнікі сьвята выказвалі сваю занепакоенасьць сытуацыяй у Беларусі.

Паводле інфармацыі У.Акавітага

## АДГАЛОС ПАДВОЙНАГА ЮБІЛЕЮ Я.М. МІТРАПАЛІТА ІЗЯСЛАВА

70-я ўгодкі нараджэньня й 15-я япіскапскае хіратоніі Я.М. Мітрапаліта Ізяслава, што выпалі ў пачатку гэтага году й праз якія мы пісалі ў двох папярэдніх нумарох "Ц.П.", выклікалі адгалос нятолькі сярод верных ідэі аўтакефаліі праваслаўных беларусаў, але й з боку прыязных дзейбітаў Кіяўскага Патрыярхату Украінскае Праваслаўнае Царквы.

Выявам гэтага, апрача лістоўных віншаваньняў, стала зьмешчанае на 17-й бачыне "Вісника Київської Духовної Академії" № 1(19) за студзень 1996-га году прыгожае прывітаньне, якое ў перакладзе гэтта ніжэй мы перадрукоўваем:

*"ІС ПОЛЛА ЭТІ ДЭСПОТА!*

*22-га студзеня збываецца 70 год з дня нараджэньня, 22-га лютага - 15 год з дня япіскапскае хіратоніі Першагерарха Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў ЗША Яго Міласьці Мітрапаліта Ізяслава.*

*Высаканайсьвячэнны Ўладыка, з радасьцяй і найлепшымі пажаданьнямі вітаем Вас зь юбілеямі.*

*Няхай Госпад дорыць Вам добрае здароўе, сілу, навагу, вытрываласьць і надзею на Вашым цярністым пастырскім шляху.*

*Жадаем доўгалетняга, пасьпяховага служэньня для Божае славы, Ягонае Сьвятое Царквы, дабра й міру народу Беларусі на ейнай зямлі ды за межамі.*

*Як дарунак ад нас, Уладыка, прыймеце гэтыя ўсхваляваныя словы маладое таленавітае паэтэсы (сяброўкі Супалкі Пісьменьнікаў Украіны) сп-ні Тацьцяны Майдановіч.*

*І няхай гэтыя нізачкі радкоў будуць пацьвяр-джэньнем таго, што Вашыя малітвы, як і іншых запраўдных пастыраў, ня ўпалі дарэмна, а пачутыя Небам і леглі на ўрадлівы грунт."*

Сьледам за прывітаньнем рэшту бачыны займаюць тры глыбокага духовага зьместу ўзрушальныя вершы сп-ні Тацьцяны Майдановіч, якіх мы, не знайшоўшы перакладніка, ня можам пакуль-што зьмясьціць.

Шчыра дзякуем украінскім прыяцелям за гэтак прыгожа выяўленую пашану да Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы й Ейнага Першагерарха.

БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

**КАНСЫСТОРЫЯ**

## ВЫЯСЬНЕНЬНЕ Й АСЬЦЯРОГА

Неадумная й самагубная непрыязьнь да Праваслаўя з боку нашых кіраўнічых адраджэнскіх дзейнікаў, упоруч з абнятым праз націск акупацыйных рэжымаў манаполям Маскоўскага Патрыярхату на практыку Праваслаўнае Веры ў Беларусі, склаліся ў згодную блякаду інфармацыі праз магчымасьць зайснаваньня ў нашым Краі патрыятычна настроенае Праваслаўнае Царквы пры дапамозе Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, што дзее ўжо 50 год за мяжою.

Гэтая інфармацыйная блякада не спыніла й ня зьменшыла, аднак, жаданьня праваслаўных беларускіх патрыётаў займець спрыяльную й паможную іхным набожным, ды нацыянальным імкненьням Праваслаўную Царкву, ані іхнага пошуку шляху да ўжыцьцяў- леньня гэтае мэты.

Нажаль, у поўнай інфармацыйнай цемры, гэтыя пабожныя й патрыятычныя намеры апошнім часам пачалі выкарыстоўваць людзі, што зь Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквою ды й з Праваслаўем нічога супольнага ня маюць, але, дзеля асягненьня іхных сэктавых, ці прыватных інтарэсаў, не саромеюцца выдаваць сябе за праваслаўных духоўнікаў ды ствараць сярод нясьведамых уяву іхнае прыналеж-насьці да Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, а нат і займаньня ў Ёй кіраўнічых станові-шчаў.

Найбольш галосным праз гэткае гнуткае абыходжаньне з праўдай нядаўна стаў заезны ў Беларусі госьць з ЗША Эмігідыюш Джэры (Юры) Рыжы, што афіцыйна называе сябе нячуваным у праваслаўнай традыцыі тытулам "Апостальскага Адміністратара Сусьветнага Амэрыканскага Патрыярхату Праваслаўнае Каталіцкае Царквы" ды да таго яшчэ й "Мітрапаліта Беларускае Народнае Праваслаўнае Царквы", але ў ягонай дзейнасьці сярод праваслаўных вернікаў у Беларусі поўнае й абсалютнае асобнасьці, ды няпераступнае розьніцы паміж ягонай сэктай, а Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквою ня выяўляе ды, гэткім чынам спрычыняецца да стварэньня сярод нясьведамых ураджаньня, што ён можа быць адным, прытым ці не найважнейшым, зь япіскапаў у гэтай Царкве.

На вялікую шкоду справе ўзнаўленьня ў нашым Краі патрыятычна настроенае запраўды Праваслаўнае Царквы ды нацыянальна-адраджэнскім мэтам наагул, ягонае нядбайнае абыходжаньне з праўдай нятолькі сустракае давер сярод дзе-якіх праваслаўных вернікаў, якіх адштурхоўвае няхрысьціянская дзейнасьць Экзархату Маскоўскага Патрыярхату ў Беларусі, але й памагае знаходзіць ахвочыя адзінкі займацца пашырэньнем гэтага хвальшу.

З увагі на гэта Кансысторыя Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы заяўляе, што:

1. Сп. Эмігідыюш Джэры (Юры) Рыжы ня ёсьць ні япіскапам, ні сьвятаром, ані нават вернікам Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

2. Няведамыя й нядзейныя сярод беларускае эміграцыі "Амэрыканскі Сусьветны Патрыярхат Праваслаўнае Каталіцкае Царквы" й "Беларуская Народная Праваслаўная Царква" ня ёсьць Праваслаўнымі Цэрквамі наагул, а толькі прынаднымі назовамі дробнае амэрыканскае сэкты.

3. Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ніякага даручэньня, дазволу, ці права выступаць, або як-колечы інакш дзеяць ад Ейнага ймя ў Беларусі, ані дзе-інш сп. Эмігідыюшу Джэры (Юраму) Рыжаму не давала й таму ўсё, што ён дзе-колечы адкрыта, ці зводна сказаў, або зрабіў, паклікаючыся на лучнасьць з БАПЦ, няпраўнае й няважнае.

4. Кансысторыя БАПЦ асьцерагае праваслаўных вернікаў у Беларусі, што ўдзел у ачоленых сп. Эмігідыюшам Джэры (Юрым) Рыжым, або пастаўленымі ім на гэта асобамі адправах і абрадах, прыйманьне ад іх незапраўдных таінстваў ды супрацоўніцтва з іхнай місыянэрскай дзейнасьцяй, адлучае гэтых вернікаў ад Праваслаўя ды робіць іх сэктантамі.

5. Кансысторыя БАПЦ заклікае ўсіх праваслаўных вернікаў у Беларусі, якім дарагая спрадвечная Праваслаўная Вера, а ў сэрцы дабро Бацькаўшчыны, адвярнуцца ад хвальшывых пропаведзяў і дзеяў, як Маскоўскага патрыярхату, гэтак і ад усялякіх, улучна з ачоленай Эмігідыюшам Джэры (Юрым) Рыжым, сэктаў, ды пачаць шчыра й ахвярна працаваць на ўзнаўленьне на Бацькаўшчыне прайнятае любасьцяй да Бога й роднага Краю, ды прыхільнае да нацыянальна-адраджэнскіх імкненьняў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

У нядзелю Сьвятых Беларускае Зямлі, 16-га чырвеня, Божага лета 1996-га.

**Кансысторыя БАПЦ**

## СЬВЯТЫ АПАНАС БЕРАСЬЦЕЙСКІ

Гутарка празь сьвятых у наш век замест дзіваваньня зь велічы іхных дзеяў найчасьцей выклікае незразуменьне непахіснае вернасьці ды бязьмежнае ахвярнасьці ў службе Божай справе, што кіравалі ўчынкамі гэных нязвычайных людзей.

З гэтага чужымнага настрою выводзіцца й неахвота да азнаямленьня зь цікавымі й павучальнымі, а неаднойчы нат і натхняльнымі жыцьцямі ці-аднае з гэтых выдатных адзінак.

Адным з прыкладаў на гэта можа быць асоба Апанаса Філіповіча, або Сьв. Апанаса Берасьцейскага, згад якое сам па сабе набягае на думку ў повязі з 400-мі ўгодкамі Берасьцейскае царкоўнае вуніі, што была прычынай ягонае, супраціўнае ёй дзейнасьці ды пакутнага жыцьця, а ўканцы й мучаніцкае сьмерці.

Нажаль беларускім праваслаўным вернікам даступныя весткі праз гэтага палымянага абаронца праваслаўнае веры ў нашым Краі ды гарачага патрыёта нашае старое дзяржаўнасьці адно ў варожым да беларускае справы асьвятленьні, што яшчэ менш прыяе заціkаўленьню ягоным жыцьцём.

**У ймя гістарычнае справядлівасьці й праўды, а разам і з патрэбаў рэлігійнага й нацыянальнага адраджэньня варта, таму, зрабіць спробу падзівіцца на гэтую постаць з нашага собскага пункту гледжаньня.**

Апанас Філіповіч нарадзіўся прыблізна ў 1597-м годзе ў сям'і рамесьніка на Берасьцейшчыне, ужо пасьля зайснаваньня вуніі й покуль вырас, каб уступіць зь ёю ў змаганьне, пасьпеў здабыць даволі высокую, як на той час асьвету, што дала яму магчымасьць зарабляць на жыцьцё йдучы ў наймы за настаўніка ў шляхоцкіх дварох.

У гэтым зайнятку, відаць, ён займеў немалы посьпех ды разгалос, а разам і палітычны давер, бо ў 1620-м годзе яго наймае канцлер ВКЛ Леў Сапега на прыдворнага настаўніка з заданьнем адукаваць Яна Фаўстына Лубу, якога ўлады Рэчыпаспалітай рыхтавалі на падстаўнога царэвіча Зьмітра, што, зь іхнай дапамогай узыйшоўшы на маскоўскі пасад, быў-бы паслухмянай прыладай ватыканскае й польскае палітыкі.

Пасьля сямі год службы пры канцлеравым двары ў жыцьці Апанаса Філіповіча адбываецца глыбокая зьмена й ён разьвітваецца зь ягонымі найміцкімі абавязкамі.

Праз духовы характар гэтае зьмены ды магчымую ейную прычыну ў крыўдзе, якую ён мог дазнаць за ягоныя рэлігійныя перакананьні, ці прыналежнасьць, сьветчыць факт, што адразу-ж пасьля дворскае службы, застаючыся верным сваёй прасьледаванай царкве, у 1627-м годзе ён пастрыгаецца ў манахі праваслаўнага Сьв.-Духавага манастыра ў Вільні.

Празь нейкі час пераяжджае на далейшы манаскі послух у ведамы Куцейнскі манастыр каля Воршы, а яшчэ пазьней у Міжгорскі манастыр пад Кіявам, адкуль урэшт узноў варочаецца ў Вільню.

Гэткім чынам ён, відаць, дастаткова азнаёміўся з практыкай манастырскага жыцьця ды выявіў патрэбныя да кіраўнічага ў гэтым жыцьці становішча якасьці, з увагі на што ў 1633-м годзе й прызначаецца духоўнымі ўладамі на намесьніка йгумена Дубойскага манастыра каля Пінска.

На гэтым становішчы, аднак, не пашчасьціла застацца надаўжэй, бо ў 1636-м годзе з самаволі канцлера ВКЛ Альбрэхта Станіслава Радзівіла Дубойскі манастыр быў перададзены езуітам і Філіповічу давялося пераехаць у Купяціцкі манастыр каля Пінска.

Гэтая вялікая несправядлівасьць наўзьверх штодзённых крыўдаў і прыцiскаў з боку спольшчаных і скаталічаных уладаў не маглі не адбіцца на сьведамасьці, а мо нават і псыхіцы прыгнечанага чалавека.

Бязьсільны перад афіцыйна зацьверджаным гвалтам і бездапаможны ў абліччы адыходу заможных пластоў грамадзтва ў каталіцтва, ці вунію, а з гэтае прычыны й спаду матарыяльнае падтрымкі праваслаўнай царкве, ён наважвае накіравацца ў Маскву, каб гэнам у праваслаўнага цара прасіць дайбы на Купяціцкую манастырскую царкву.

Наіўнасьць ягоных спадзяваньняў на хрысьціянскую дабрадзейнасьць "зьбіральніка рускае зямлі" можна хіба раўнаваць да ружовых надзеяў бээнэраўскіх і грамадоўскіх дзеячоў, што трыста год пазьней падаліся ў БССР "будаваць беларускі дом", з плюсам у карысьць Філіповіча, які яшчэ ня ведаў запраўдных якасьцяў маскоўскае дэспотыі.

Пасьля Філіповічавага прыезду ў 1638-м годзе ў Маскву ім заапекаваліся, кажучы сучаснай мовай "адпаведныя ворганы" ды й зьвялі напісаць, па сёньняшняму называючы "кампрамат" у форме гісторыі ягонага падарожжа, каб, быццам, гэтым здабыць царовую ласку.

Таксама, хоць у Маскве й ведалі праз падрыхтоўку ў Рэчыпаспалітай самазванца, усё-ж выкрыццё гэтага ашуканства настаўнікам самога кандыдата было вельмі на руку.

Выкарыстаны ў мэтах маскоўскае палітыкі ды ўзнагароджаны за гэта Філіповіч вярнуўся ў Літву, дзе, відаць, праз падарожжа здабыў немалую папулярнасьць сярод безбаронных праваслаўных вернікаў.

Праз гэтую папулярнасьць найлепш сьветчыць тое, што ў 1640-м годзе ён быў прызначаны йгуменам Сымонаўскага манастыра ў Берасьці.

У Берасьці ў той час моцным дзейнікам супраціву каталіцка-вуніяцкай польскай бяспраўнасьці й націску было праваслаўнае брацтва Хрыстовага Нараджэньня, заступаючыся, як духоўны апякун, за законныя правы якога, ды ня могучы нічога асягнуць на мейсцы, Філіповіч у 1641-м годзе накіроўваецца на вальны (агульны) сойм у Варшаву, дзе атрымоўвае ад караля Ўладыслава патрэбны прывілей, які, аднак, не займеў сілы, бо канцлер Радзівіл і падканцлер Трызна адмовіліся замацаваць дакумэнт іхнымі пячаткамі.

Не атрымаўшы сьпярша пажаданага выніку Філіповіч узноў прыяжджае на сойм у 1643-м годзе й гэтым разам, загадзя распаўсюдзіўшы копіі апісаньня ягонага падарожжа ў Маскву, патрапляе здабыць дазвол на выступ з соймавае трыбуны з суплікай (жальбою) да караля на бяспраўныя дзеі канцлера й падканцлера, ды з дамаганьнем неадкладнага скасаваньня вуніі дзеля ратунку дзяржавы.

За гэты выступ праваслаўныя духоўныя ўлады ў Рэчыпаспалітай, пэўна-ж, пад дзяржаўным націскам, узялі Філіповіча пад арышт ды, далажыўшы іншыя зьвінавачаньні, учынілі над ім суд, на якім пазбавілі духоўнае годнасьці й да зацьверджаньня прысуду накіравалі пад нагляд мітрапаліта Пятра Магілы ў Кіяў.

Гэнам, аднак, кансысторскі суд Філіповіча выпраўдаў ды вярнуў на йгуменскае становішча ў Берасьці.

Доўга жыць на волі, нажаль, не давялося, бо ў 1644-м годзе ўжо дзяржаўныя ўлады, зьвінаваціўшы за зраду ў справе самазванца Яна Лубы, арыштоўваюць Філіповіча й зачыняюць у варшаўскім астрозе.

Тады, працягам поўгадовага зьняволеньня ён напісаў на старой беларускай мове некалькі сьціраваных да караля публіцыстычных твораў, у якіх выкрываў непарадкі й несправядлівасьці ў Рэчыпаспалітай ды, асьцерагаючы перад згубнымі наступствамі гвалтам уводжанае царкоўнае вуніі, дамагаўся ейнага скасаваньня.

Хоць зьмест гэных твораў патрыятычны й насычаны трывогай за будучыню свае дзяржавы, усё-ж яны былі палічаныя за абразу каралеўскае годнасьці й злачын, ды Філіповіч за гэта ўзноў быў засланы пад мітрапалітаў нагляд у Кіяў.

Гэтта, спадзяючыся пераканаць мітрапаліта ў слушнасьці сваіх паглядаў і вызваліцца спад нагляду, Філіповіч злучае ўсе ягоныя папярэднія публікацыі ў адзін твор пад назовам "Дыярыюш", што, на ягоную думку, назаўсёды застанецца праўдным сьветчаньнем празь цяжкую гістарычную пару, у якую аўтару давялося жыць.

Мітрапаліт Пётра Магіла, аднак, выпраўданьняў ня ўзяў на ўвагу й Філіповіч быў прымушаны заставацца

ў Кіява-Пячэрскім манастыры ажно да мітрапалітавае сьмерці ў 1647-м годзе.

Тады, выпушчаны з паднагляднага гнятла, ён яшчэ раз варочаецца на сваё пастырскае мейсца ў Берасьцейскім манастыры ды, нажаль, ненадоўга.

1-га ліпеня 1648-га году, хвальшыва ўданы, быццам за пасыланьне нейкіх лістоў і пораху казакам Багдана Хмяльніцкага, Філіповіч быў арыштаваны каралеўскім войскам пад повадам ваяводы Масальскага, нялюдзка мучаны ды ўрэшт, бяз довьаду віны, уначы 5(15) верасьня застрэляны каля сяла Гяршанавічы, недалёка ад Берасьця.

Затоенае цела пакутніка адно пасьля 8-мі месяцаў было знойдзенае й пахаванае ў Берасьцейскім манастыры Нараджэньня Божае Маці.

Ужо ў 1666-м годзе было складзенае першае апісаньне жыцьця йгумена Апанаса, у якім ён называецца сьвятым і звышдагодным, але, ці была, ды калі, ягоная фармальная кананізацыя няведама, бо нават дасьледнік гэтае справы праф. Е. Галубінскі ніякага ейнага сьледу не знайшоў.

Хутчэй за ўсё сьвятасьць і дагоднасьць Богу, ды заслугі перад Царквою гэтага пакутніка былі нагэ-тульки вялікімі й нясумнеўнымі ў сьведамасьці блізкіх яму сучасьнікаў, што пашана ягонае памяці ўстана-вілася спантанна адразу пасьля сьмерці, аб чым можа сьветчыць здаўняе захоўваньне ягонага цела ў меднай дамавіне ў Сымонаўскай царкве ў Берасьці, ажно па-куль яно не згарэла разам з будынкам падчас пажару ў 1816-м годзе.

Рэшткі, што засталіся ад агню, вывезеныя ў канцы расейскае грамадзянскае вайны 1918-20 гадоў за мяжу, як ня крыўдна, дасюль знайходзяцца ў расейскім жаночым манастыры ў Правэмон каля Парыжу.

Можа больш, аднак, несправядліва тое, што ў нашай адраджэнскай сьведамасьці дасюль няма незалежнага ад польскіх і маскоўскіх паклёпаў, а выпрацаванага собскім дзяржаўным розумам, пагляду на постаць гэтага палымянага змагара за йснаваньне свае Праваслаўнае Царквы ў нашым Краі й за праўнасьць, ды справядлівасьць у нашай дзяржаве, як гарантыю ейнае незалежнасьці.

Таму пара падзівіцца на яго нятолькі як на аднаго з аўтараў нашае старое мэмуарнае літаратуры, але й як на Божага слугу, ды патрыёта, за прыкладам якога, у магчымай меры, варта йсьці ўсьлед і сёньня.

Няхай-жа гэты кароткі артыкул стане штуршком да пачатку гэтае добрае справы.

**Б. Сурынец**

## ПАСЕДЖАНЬНЕ РАДЫ БАПЦ

У нядзелю, 28-га красавіка г.г., пасьля Сьв. Літургіі й малебну за аздараўленьне пацярпелых ад чарнобыльскае катастрофы, што іх з нагоды 10-х угодкаў гэтага няшчасьця адправіў Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў, у залі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага адбылося паседжаньне Рады Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, на якім, апрача дасюлешніх сяброў, былі асабіста, ці праз упаўнаважаньні прысутныя прапанаваныя на дапаўненьне складу Рады прадстаўнікі ад парахвіяў.

Паседжаньне пачаў малітвай Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў ды, пасьля ўшанаваньня памяці памерлых сяброў Рады, прывітаў прысутных і заклікаў творчым удзелам у нарадах прычыніцца да карыснага для БАПЦ іхнага выніку.

Пасьля заладжаньня ўступных фармальнасьцяў, якімі паседжаньню давялося ўсьлед зайняцца, у тым ліку й прыймом да ведама дапаўненьня складу Рады дэлегаванымі ад парахвіяў сябрамі, слова ўзноў узяў Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў, каб прадставіць сучасны стан БАПЦ і пэрспэктывы Ейнага разьвіцьця.

У ягоным слове Ўладыка ў першую чаргу падкрэсьліў вагу ў жыцьці кожнага народу прыхільнае да ягоных нацыянальных імкненьняў Царквы й немагчымасьць асягнуць, ды захаваць бяз гэткае Царквы дзяржаўную незалежнасьць.

Гэтая праўда, нажаль, ня была зразуметая нашым адраджэнскім актывам і гістарычная нагода ўзнавіць на Бацькаўшчыне Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, што здарылася колькі год назад, была страчаная ды рэлігійна-духовае жыцьцё праваслаўнае большасьці Беларускага народу засталося пад узмоцненым сёньня кантролям Маскоўскага Патрыярхату.

Далей Уладыка апісаў былыя працягам апошніх 16-ці год, а выкліканыя вонкавымі сіламі, непарадкі ў БАПЦ, Ейнае аслабленьне гэтымі трагічнымі падзеямі ды нямогласьць з гэтае прычыны ўзьняць у адказны гістарычны мамэнт шырэйшую дзейнасьць за ўзнаўленьне аўтакефаліі на Бацькаўшчыне.

З Божай, аднак, дапамогай і дзякуючы адданасьці ў службе Яму, ды ахвярнасьці сьвятарства й вернікаў БАПЦ у Англіі, Аўстраліі й ЗША, заняпад у Ейнай дзейнасьці нятолькі быў спынены, але сёньня ўжо можна гаварыць праз значны ў ёй прагрэс.

Перш за ўсё ён выяўляецца ў вонкавых дачыненьнях, як зь іншымі Праваслаўнымі Цэрквамі, гэтак і з амэрыканскімі дзяржаўнымі й палітычнымі дзейнікамі.

Таксама пачалося й разбудоўваецца пашырэньне ідэі аўтакефаліі, ды адбудовы Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Бацькаўшчыне шляхам дасыланьня царкоўных выданьняў і іншых кантактаў.

За гэтую вялікую й Богу дагодную працу ў выдавецкай і інфармацыйнай дзялянцы глыбокая падзяка належыцца прысутным на паседжаньні нядаўна прыбылым зь Беларусі вернікам БАПЦ.

Сума гэтых посьпехаў ствараe нашай Царкве й вонкавы прэстыж, найлепшым сьветчаньнем чаго ёсьць ёсьць далучэньне да Яе Валійскае Праваслаўнае Місыі.

Усё-ж тое, што частка вернікаў БАПЦ зь нясьведамасьці дасюль застаецца ў сьхізьме, ёсьць балючай ранай у целе нашае Царквы й у сэрцы кожнага з нас.

Нажаль асягненьне царкоўнага адзінства й запраўднае згоды немагчымае бяз выкрыцьця прычынаў падзелу, пакаяньня вінных за ягонае стварэньне й звароту няпраўна захопленых у гэтым падзеле здабыткаў.

Упрашайма-ж ласкі нашага Збаўцы Ісуса Хрыста й Ягонае Маці асьвятліць сэрцы й думкі тых вернікаў БАПЦ, што зьйшлі ў бездарожжа, каб яны вярнуліся ўва ўлоньне нашае запраўднае Царквы.

Пасьля Ўладыкавага слова паседжаньне разгледзела й ухваліла дзейнасьць Кансысторыі БАПЦ.

Апрача таго ранейшае становішча сакратара Кансысторыі, якое займала духоўная асоба было перай-

менаванае ў пасаду канцлера, на якога быў выбраны а. пррсв. Аляксандар Кулакоўскі, а дагляд бягучых справаў і выкананьне канцылярскіх абавязкаў было даручанае выконнаму сакратару сп. Барысу Данілюку.

Паколькі Япархія БАПЦ зарэгістраваная, ці, інакш, інкарпараваная перад уладамі ЗША, сьледам былі выбраныя, неабходныя паводле закону, апякуны, на мейсцы тых, што выбылі.

Таксама быў дапоўнены й лік апякуноў Місыйнага Таварыства БАПЦ.

Перайшоўшы да пляну працы было пастаноўлена даручыць Кансысторыі дамовіцца й узгодніць з парахвіямі, ды падрыхтаваць скліканьне наступнага Сабору БАПЦ.

Далей паседжаньне ўзважыла патрэбу ўзмацненьня выдавецкае й наагул інфармацыйнае дзейнасьці, ды дзеля гэтага стварыла інфармацыйна-выдавецкі адзьдзел Рады.

Побач з гэтым было ўзьнятае пытаньне здабываньня магчымасьцяў для ўезду беларусаў у ЗША й дапамогі ім у асяленьні, на што быў створаны адзьдзел іміграцыйных справаў.

Пастаноўлена таксама, што кіраўнікі вышэй названых адзьдзелаў увойдуць у склад Кансысторыі.

У ходзе паседжаньня было яшчэ закранута шмат справаў, што не ўваходзілі ў парадак дня й іхнае разьвязаньне было даручанае Кансысторыі, або адкладзенае да пазьнейшага разгляду Рады.

Пасьля колькігадзінных паважных гутарак і жывых, няраз, дыскусыяў паседжаньне Рады БАПЦ урэшт дайшло да канца й было закончанае архіпастырскай малітвай.

Дапоўнены й адмалоджаны новымі сіламі, нядаўна прыбылымі з Краю, й у жывым зь ім кантакце, склад Рады БАПЦ дае пэўнасьць на багатую асягненьнямі ягоную працу на Божую славу ды дабро нашае Сьвятое царквы й любае Бацькаўшчыны-Беларусі.

### 400 ГОД БЕРАСЬЦЕЙСКАЕ ЦАРКОЎНАЕ ВУНІІ

У гісторыі чалавецтва зьяўлялася нямала добрых на слове ідэяў і намераў, што ўжыцьцяўляныя бяз згоды тых, на чыю, быццам, карысьць гэта рабілася, абярталіся ў непрадбачаную шкоду й множнае асабістае, ды агульнае народнае няшчасьце.

Аднэй з гэткіх слушных на просты розум ідэяў было й застаецца жаданьне царкоўнага адзінства, што зьявілася на сьвет разам з падзелам хрысьціянства на ўсходнюю й заходнюю царквы ў 1054-м годзе.

Нажаль гэтае адзінства не разумелася абодвымі бакамі як роўнасьць, але ў меншай, ці большай ступені, як падпарадкаваньне аднаго зь іх другому, з чаго, у першую чаргу, і ўчыніўся падзел.

Усходняя, або праваслаўная царква, абапертая ў той час на Бізантыйскую імпэрыю, што хісталася ад мусулманскага націску, ніякіх дзейных захадаў да асягненьня гэтага адзінства ўжо рабіць ня была здольнай.

Затое заходняя, або рыма-каталіцкая царква, абняўшы нятолькі духовую, але й сьвецкую зьверхнасьць над перастворанай Рымскай імпэрыяй, узяла гэтае, на няроўнасці пабудаванае, адзінства за адну з галоўных, агрэсыўна праводжаных, мэтаў ейнае палітыкі.

Цэнтральнымі ейнымі аб'ектамі, праз слабасьць Канстантынопальскага кантролю над царквою й дзяржаўнаю ўладаю на вялізным абшары распалае ў пачатку будовы імпэрыі Рурыкавічаў, стала, створанае на сёньняшніх беларускіх землях і пашыранае на ўкраінскія,Вялікае Княства Літоўскае, ды побач зь ім Маскоўшчына.

Маскоўшчына, аднак, вострачы собскія апэтыты на суседзкія землі ды разумеючы, што ў здаволеньні гэных апэтытаў паслухмяная ёй праваслаўная царква можа быць вельмі зручнай прыладай, шчыльна зачыніла дзяржаўныя межы ад каталіцкага й наагул заходняга доступу.

Неабходнасьць свае Праваслаўнае Царквы дзеля ўмацаваньня дзяржаўнае незалежнасьці ды стварэньня нацыянальнае сьведамасьці разумелі й галоўныя будаўнікі Вялікага Княства Літоўскага - вялікія князі Альгерд і Вітаўт.

Дзякуючы іхнаму дзяржаўнаму розуму й наважнасьці Праваслаўная Царква ў Вялікім Княстве Літоўскім часова здабыла фактычную й практычную аўтакефалію.

Завяршыць гэтую справу, аднак, не пашчасьціла, у немалой меры дзеля схільнасьці Канстантынопальскага Патрыярхату да Масквы, а галоўным чынам у выніку хітрае папскае палітыкі, што праз паслухмяную ейную зброю, сьціснутую немцамі й жадную жыцьцёвае прасторы Польшчу, здолела, за ахвяраваную Ягайлу каралеўскую карону, купіць неабмежаную ўладу ў дзяржаўнай палітыцы ВКЛ дыськіраваць яе на самазьніштчэньне гэтае дзяржавы й палянізацыю абнятых ейнымі межамі народаў.

Сярodкамі й этапамі ў гэтых ліквідацыйных плянах былі, з аднаго боку - рашчапленьне грамадзянскага адзінства й ляяльнасьці ўпрывілеяваньнем пярэхрыстаў у каталіцтва, а з другога - падпарадкаваньне з дапамогай апошніх дзяржаўных інтарэсаў ВКЛ польскай, а гэтым і ватыканскай палітыцы, празь ягонае, званае вуніяй, улучэньне ў Польшчу.

Толькі, калі гэтыя два этапы былі пройдзеныя, адважылася чужая ўжо інтарэсам ВКЛ дзяржаўная ўлада паймкнуцца да наступнага й апошняга ў ейным раскладзе дзеяў этапу сьціраньня астачаў літоўскае апрычонасьці, а гэта пераводу ў каталіцтва, вернае дасюль праваслаўнай веры, большасьці насельніцтва.

Каб вынайсьці спосаб на гэта, маючы ўладу, не спатрэбілася вялікае мудрасьці й пад той, ці іншай формай націску, або на абяцанкі падобных да каталіцкіх прывілеяў выявіліся ахвочыя скарыцца папу праваслаўныя япіскапы.

Яны й склікалі ў кастрычніку 1596-га году ў Берасьці сабор, на якім, не зважаючы на тое, што нязгодная зь ягонай мэтай частка ўдзельнікаў адзьдзялілася ў асобны супраціўны сабор, было ўхваленае падпарадкаваньне праваслаўнае царквы ў ВКЛ і тады ўжо адабранай ад яго Ўкраіне папскаму пасаду.

Саборам, што меў загадзя вызначаны вынік, справа, як ведама, ня скончылася й, паколькі ахвочых ісьці за прыйнятымі на ім пастановамі знаходзілася мала, усьлед пачалося прымусовае заганяньне праваслаўных у вунію з усімі спадарожнымі яму гвалтамі, крыўдамі й зьдзекамі.

Апісаньні гэных жахлівых падзеяў пакінутыя нагэтулькі аўтарытэтнымі й шматлікімі сьветкамі, што сумнеў да праўды іхных словаў, або прамоўчваньне, ці

нават выпраўданьне нейкімі вышэйшымі мэтамі безьлічы несправядлівасьцяў у дачыненьні да праваслаўных у тую пару, як гэта апошня павялося сярод дзе-якіх адраджэнскіх гісторыкаў, публіцыстаў і дзеячоў, інакш як кампрамітацыяй усяго адраджэнскага руху, нажаль, назваць нельга.

Горш яшчэ як за кампрамітацыю, бо за знарочную шкоду нашаму вызвольнаму змаганьню, трэба лічыць цьверджаньне, што вунія была нашай нацыянальнай царквою, бо, быццам, у вуніяцкіх цэрквах адправы йшлі пабеларуску й казані казаліся панашаму ды... ды ці ня бел-чырвона-белы сьцяг красаваўся каля крыжа й "Магутны Божа" пяялася штодня.

Чаму-ж мы тады тэкстаў тых адправаў на нашай мове ня маем, чаму-ж за 240 год ейнага йснаваньня вунія не пакінула нам беларускага перакладу Біблії, або ўжо, калі не да таго было, хоць-бы пацяраў на кожны дзень?!

А таму, што не на тое яна была створаная!

Мэтай бо вуніі не магло быць і ня было ейнае пераўтварэньне ў прыслухмяную да інтарэсаў вернага ўсходняму абраду насельніцтва ВКЛ і Ўкраіны, ды гэтым, крый Божа, у канкурэнтную да шавіністычна польскага рыма-каталіцкага касьцёла, царкву, а ўсьлед яшчэ й немінучае збуджэньне нацыянальнае сьведамасьці й сэпаратызму.

Наадварот, уцісканьне у сьведамасьць гэнага насельніцтва, празь ягоную ізаляцыю ў нязьменным стане другое клясы вернікаў, пачуцьця меншае вартасьці ды гэткім чынам урахманьваньне яго да пераходу ў каталіцтва й да нацыянальнае асыміляцыі было запраўдным заданьнем вуніі.

Амаль два з паловай стагодзьдзі гэткага ўрахманьваньня не маглі не пакінуць сьледу на нацыянальнай псыхіцы й у ім вялікая частка адказу на прычыну нашае сёньняшняе падатлівасьці, замест колішняе наважнасьці й вайнічасьці.

Вунія, аднак, увайшла ў нашую гісторыю не адно тым, што ня стала нацыянальнай царквою, ды гэтым зламала й змарнавала нацыянальны патэнцыял, але яшчэ й тым, што адчыніла дзьверы другой, няменш шкоднай і небясьпечнай вуніі з усходу.

Ня будзь бо Берасьцейскае вуніі Праваслаўная Царква ў Вялікім Княстве Літоўскім ішла-б далей пачатым пры Альгердзе ды Вітаўце шляхам і, раней, ці пазьней асягнула-б аўтакефалію, ды гэтым, стаўшы запорай супраць польскіх і маскоўскіх рэлігійных наступаў, абярнулася-б у нашую запраўдную нацыянальную царкву.

Колькасна зьменшаная й гэтым аслабленая, ды пасьледаваная дзеля ўмацаваньня вуніі, яна, нажаль, зь няўвагі ўладаў Рэчыпаспалітай і пры згодзе Канстантынопальскага Патрыярхату ў 1686-м годзе ўрэшт падпала пад юрысдыкцыю Масквы, што дазволіла апошняй, быццам у абароне праваслаўных, мяшацца ў нутраныя справы ейнае заходняе суседкі ды, зачапіўшыся за царкоўнае адзінства, завяршыць гэтую повязь, падобна як Польшча зрабіла раней, вуніяй, або, пасёньняшняму кажучы, дзяржаўнай інтэграцыяй з Расеяй.

Усе гэтыя факты добра ведамыя кожнаму, нат малаведе знаёмаму з роднай гісторыяй чалавеку й даюць адну, ды бяссумнеўную навуку, што беларускай нацыянальнай царквою можа быць толькі незалежная адвонку аўтакефальная Праваслаўная Царква й, што безь яе йснаваньне незалежнае беларускае дзяржавы немагчымае.

Не зважаючы на відавочнасьць гэтае праўды ў нашым адраджэнскім руху ў адказ на наяўную сёньня рэлігійную сытуацыю, не бяз помачы звонку, зьявіліся дзьве плыні - адна за ўзнаўленьнне вуніяцтва й, няйнакш, вярненьне ў яго ўсіх праваслаўных, ды другая - рэфармацыя ў беларускім нацыянальным кірунку Расейскае Праваслаўнае Царквы ў Беларусі, шляхам найбольшага зь ёю супрацоўніцтва.

Пагляды абедзьвюх вуніяцкіх плыняў, з нацыянальнальнага пункту гледжаньня йнакш, як лунатызмам у белы дзень, назваць нельга, але яны, нажаль і надзіва, адзіныя цяпер у нас уявы й спробы пабудовы рэлігіййнага жыцьця нашага Народу ў будучыні.

Нельга сказаць, каб ружовыя самападманы носьбітаў гэтых думкаў знайходзілі масавы водгук сярод праваслаўных вернікаў, але, упоруч з прапагандай афіцыйных царкоўных і касьцельных дзейнікаў, яны здолелі замоўчаць і ўтаіць інфармацыю нятолькі празь Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву за мяжою, але й праз самую ідэю аўтакефаліі Праваслаўнае Царквы й ейнага йснаваньня ў Беларусі.

Выяўлены ў кароткім выслоўі розум людзкіх пакаленьняў кажа, што, хто ня вучыцца зь гістарычных памылак, той нямінуча іх паўтарае.

Не хацелася-б верыць, што мы ўзноў пойдзем блудным шляхам, але прынагодны да юбілею Берасьцейскае вуніі агляд мінулага й нашых цяперашніх, як царкоўных, гэтак і нацыянальных справаў, не дазваляе на іншыя высновы.

А ці ня варта было-б схамянуцца ды зьвярнуць на пачаты Альгердам і Вітаўтам шлях, каб дайсьці па ім да стварэньня ў Краі, замест эрзацаў, запраўды свае роднае, незалежнае ад вонкавых інтарэсаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы?!

**Барыс Данілюк**

## ПАГАДНЕНЬНЕ ПАМІЖ КАНСТАНТЫНОПАЛЯМ І МАСКВОЮ

Як было адзначана ў леташнім каляднім нумары "Ц.П.", працягам апошніх пару год завязалася спрэчка паміж Канстантынопальскім і Маскоўскім Патрыярхатамі за юрысдыкцыю над Эстонскай Праваслаўнай Царквою й прыймо пад апеку Сусьветнага Патрыярхату Ўкраінскае Праваслаўнае Царквы ў ЗША.

Хоць бо ў пару дзяржаўнае незалежнасьці Праваслаўная Царква ў Эстоніі была ў юрысдыкцыі Канстантынопальскага Патрыярха, Маскоўскі Патрыярхат сілком абняўшы ў выніку савецкае акупацыі ў 1940-м годзе ўладу на тэрыторыі гэнае Царквы, і цяпер, калі ўзнавіўся эстонскі сувэрэнітэт ды вярнулася з эміграцыі краёвае царкоўнае кіраўніцтва, не згадзіўся вярнуць няпраўна забранае.

Спрэчкі дайшлі да таго, што паўстала пагроза адкрытага расколу ў Праваслаўі, бо ў Маскве ўжо былі нават перасталі ўспамінаць Канстантынопальскага Патрыярха ў адправах.

Нажаль маскоўская нахабнасьць аплацілася й Канстантынопальскі Патрыярх апошня ў сваіх правох паступіўся, дазволіўшы на йснаваньне ў Эстоніі дзьвюх

юрысдыкцыяў - эстонскае й маскоўскае, ды на права выбару вернікамі іхнае царкоўнае прыналежнасьці.

Як разьвяжацца спрэчка за прыймо пад апеку Канстантынопальскага Патрыярхату Украінскае Праваслаўнае Царквы ў ЗША цяжка прадбачыць, бо гэта ў немалой меры залежыць ад выніку кантактаў і перамоваў у справе зацьверджаньня гэтым Патрыяхатам аўтакефаліі Праваслаўнае Царквы на Ўкраіне.

А без падтрымкі Украінскае ды з часам і Беларускае Аўтакефальных Праваслаўных Цэркваў Канстантынопальскі Патрыярхат у нямінучых канфліктах з маскоўскай агрэсыяй, як паказалі падзеі ў Эстоніі, будзе падобны да таго ваякі, што ўзяў на вайне нятца, але ня змог прывясьці ў палон, бо той самога йсьці ня пусьціў.

## НОВЫ КАНСТАНТЫНОПАЛЬСКІ ЭКЗАРХ У ЗША

31-га ліпеня г.г. Канстантынопальскі Патрыярхат выбраў італійскага мітрапаліта Сьпірыдона на наступніка дасюлешняга кіраўніка Амэрыканскае Архіяпархіі гэтае юрысдыкцыі архіяпіскапа Якаваса, які, асягнуўшы 85 год жыцьця, падаўся на спачын.

Разам з гэтым Патрыярхат узьняў мітрапаліта Сьпірыдона на становішча патрыяршага экзарха ў ЗША, але выдзяліў зь ягонае юрысдыкцыі цэрквы ў Канадзе ды Сярэдняй, і Паўдзённай Амэрыцы, дзе ў Таронта, месьце Мэксыку ды ў Буэнос Айрэсе неўзабаве маюць быць створаныя асобныя мітраполіі.

Архіяпіскап Сьпірыдон народжаны 52 гады назад у ЗША й атрымаў багаведную асьвету ў Патрыяршай Акадэміі на абтоку Халкі (1962-66) ды на ўнівэрсытэтах у Швайцарыі, і Нямеччыне.

Ад 1966-га году ён служыў у прадстаўніцтве Канстантынопальскага Патрыярхату пры Сусьветнай Радзе цэркваў у Жэнэве, сакратаром Праваслаўнага Цэнтру таго-ж патрыярхату таксама ў Жэнэве ды галоўным рэдактарам журналу "Эпіскэпсіс".

У 1984-м годзе быў прызначаны на становішча сакратара дэлегацыі Канстантынопальскага Патрыярхату ў дыялогу паміж Праваслаўнай і Каталіцкай Цэрквамі зь мейсцам урадаваньня ў Рыме, а ў 1991-м выбраны на Мітрапаліта Італіі з катэдральным асельлем у Вэнэцыі.

Інтранізацыя архіяпіскапа Сьпірыдона на экзархальны пасад адбылася 21-га верасьня г.г. у грэцкім катэдральным саборы ў Нью Ерку.

З гэтае нагоды Першагерарх БАПЦ Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў выслаў новаму царкоўнаму дастойніку прывітаньне.

## СУСТРЭЧА З ЛІДЭРАМІ БНФ

15-га ліпеня Катэдральны Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ наведалі лідэры Беларускага Народнага Фронту Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык.

Напачатку госьці агледзелі Сабор й правялі кароткую гутарку з Я.М. Мітараплітам і Першагерархам БАПЦ Ізяславам.

Затым, у грамадзкай залі Сабору госьці сустрэліся з парахвіянамі й выступілі з уласнымі ацэнкамі сытуацыі ў Беларусі, пасьля чаго адбыўся зацікаўлены дыялёг усіх прысутных па актуальных пытаньнях, сярод якіх важнае мейсца займала ідэя ўзнаўленьня аўтакефаліі Праваслаўнай царквы ў Беларусі.

Госьці й вернікі БАПЦ выказваліся за сталую каардынацыю дзеяньняў і супрацоўніцтва ўсіх беларускіх краёвых і замежных арганізацыяў.

## СЬВ. ПАМ. МІКАЛАЙ ВОЙТЭНКА

22-га ліпеня сёлета, пакінуўшы ў глыбокім суме спадарожніцу разам пражытага больш як поўстагодзьдзя жонку Ганну, дачку зь зяцям і дзьвяма ўнучкамі, ды сына зь нявесткай зь дзьвяма яшчэ ўнучкамі, на 82-м годзе жыцьця адыйшоў у лепшы сьвет ахвярны й нястомны працаўнік на царкоўнай і нацыянальнай адраджэнскай ніве сьв. пам. Мікалай Войтэнка.

Нябожчык нарадзіўся 20-га сакавіка 1915-га году ў сям"і настаўніка Сьцяпана й ягонае жонкі Філямэны Войтэнкаў у фальварку Мачульна, што ў Наваградзкім павеце.

З прычыны вайны, што йшла ў той час, ягоны бацька быў пакліканы ў расейскае войска, а сям'я неўзабаве эвакуаваная ўва ўсходнюю частку Беларусі, адкуль вярнуліся дамоў ажно ў 1919-м годзе.

У тым самым годзе бацька, ідучы за пакліканьнем ды маючы патрэбную падрыхтоўку, атрымаў сьвятарскае ўсьвячэньне й быў накіраваны на апеку над парахвіямі ў Слонімскім павеце.

Далей Мікалай Войтэнка падрастаў і сталеў пры бацьках, што паводле ладу сьвятарскага жыцьця ў той час, пераяжджалі кожных колькі год з парахвіі на парахвію ў Наваградзкім і Баранавіцкім паветах.

Калі прыйшла пара ён здабыў сярэднюю асьвету ў польскіх школах у Баранавічах ды тамсама служыў у кавалерыі польскага войска.

Пасланы на фронт, пасьля пачатку польска-нямецкае вайны ў 1939-м годзе апынуўся ў палоне, адкуль у замене на нямецкіх грамадзянаў быў зь іншымі беларусамі перададзены саветам, але зь недаверу да апошніх уцёк з транспарту й пешкі тайком вярнуўся дамоў у Мачульна.

Новая ўлада, аднак, не дазволіла яму спакойна ладзіць сваё жыцьцё, а, залічыўшы да "клясава шкод-нага элемэнту", паслала на прымусовую працу пры будове ваеннага лётава ў Бельску ля Беластоку.

Пачатак нямецка-савецкае вайны ў 1941-м годзе ўзноў дазволіў вярнуцца дамоў ды зайняцца гаспадаркай.

Але пажыць спакойна даўжэй і гэтым разам не давялося, бо неўзабаве ўзьняўся г.зв. партызанцкі, а ў запраўднасьці бандыцкі чырвоны рух і "кулак ды вораг народу" у 1943-м годзе мусіў зь сям'ёю ратаваць жыцьцё падаўшыся да брата Віктара ў Слонім.

Адтуль, улетку 1944-га году пашчасьціла перад паўторнай савецкай акупацыяй эвакуавацца ў паўдзённа-заходнюю Нямеччыну.

Адпрацаваўшы да нямецкае капітуляцыі на фабрыцы, сьв. пам. Мікалай Войтэнка й пасьля яе не сядзеў бязьдзейна на ўтрыманьні дапамаговых арганізацыяў, а, думаючы наперад, пачаў вывучаць эканоміку на Цюбінгенскім унівэрсытэце.

Разам з гэтым ён рабіў ўсё магчымае, каб наладзіць беларускае арганізацыйнае жыцьцё ў францускай акупацыйнай зоне Нямеччыны, дзе жыў.

Найбольш, аднак, ахвярнасьці й вытрываласьці ў

грамадзкай працы ён выявіў ды аддаў пры ўзнаўленьні аўтакефаліі Беларускае Праваслаўнае Царквы, ейнай разбудове ды ўтрыманьні.

Пасьля зрады былога беларускага япіскапату праз ягонае далучэньне ў 1946-м годзе да Расейскае Праваслаўнае Царквы за мяжою, вострае абурэньне, што адразу выбухла сярод беларускае эміграцыі, неўзабаве абярнулася ў пошук кананічнага спосабу адвярнуць гэтае няшчасьце.

На чале гэтага пошуку ды ягоным рухавіком сталі сьв. пам. тады доктар мэдыцыны, а пазьней айцец Віктар Войтэнка (Васілеўскі), ягоны бацька прат. Сьцяпан і толькі-што памерлы Мікалай Войтэнка.

Але, калі др.В. Войтэнка займаўся шырака-арганізацыйнымі справамі, а а. Сьцяпан рыхтаваў пачатак душпастырскае дзейнасьці, практычна зрабіць пабожныя жаданьні й намеры запраўднасьцяй давялося Мікалаю Войтэнку.

Нятолькі бо да арганізацыі ў 1948-м годзе Сабору ў Канстанцы, дзе быў удзельнікам, ён шмат чым далажыўся, але й пасьля таго рупеўся, каб узноўленая БАПЦ мела дзейныя парахвіі.

Вынікам гэтае рупнасьці, што між іншых справаў абыймала й здабываньне, перахоўваньне й разстаўляньне царкоўнага ўладжаньня перад кожнай адправай, ды складаньне пасьля, было адкрыцьцё парахвіі БАПЦ у Цюбінген, а пасьля, у повязі зь пераездамі ўцекачоў, ейны перанос і дзейнасьць у Мюнсынген.

Калі ў канцы 40-х і пачатку 50-х гадоў магчымасьці эміграцыі для ўцекачоў ад савецкага тэрору пабольшалі, сьв. пам. Мікалай Войтэнка зь сям'ёю падаўся ў Амэрыку й гэтта, апынуўшыся сярод большае грамады беларусаў у штаце Нью Джэрсы, не зважаючы на пачатныя цяжкасьці жыцьця ў новай краіне, адразу ўзнавіў ягоную грамадзка-культурную й царкоўную дзейнасьць.

Няма, мабыць, ніводнае беларускае грамадзкае, ці адраджэнскае арганізацыі, закладнікам, сябрам, ці памочнікам якое ня быў нябожчык.

Цэнтрам, аднак, ягонае дбайнасьці й ахвярнасьці была Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква наагул і справа Ейнае парахвіі ў Нью Бранзвіку/Гайлэнд Парку.

Як агульнацаркоўнае, гэтак і парахвіяльнае жыцьцё ў той час пачыналася амаль зь нічога, але дзякуючы ахвярнай дзейнасьці й працоўнай вытрываласьці ў немалой меры самога Мікалая Войтэнкі ды іншых адданых справе людзей, як адно, гэтак і другое пачало наладжвацца, ды расьці.

У агульнацаркоўным жыцьці арганізацыйны пэрыяд завяршыўся ў 1972-м годзе ўзнаўленьнем Беларускае Мітраполіі, а ў дзейнасьці парахвіі раней прыдбаньнем могілак і царкоўнага будынку.

У здабыцьці гэтых асягненьняў, займаючы становішчы ў кіраўных мітрапалітальных і парахвіяльных органах, прыкладным і ўпярэднім удзельнікам быў сьв. пам. Мікалай Войтэнка.

Нажаль варожая хітрасьць здолела выкарыстаць наіўнасьць, палітычную недазнанасьць ды дзяціную паверлівасьць часткі вернікаў БАПЦ і з 1979-га году ў Ёй пачаўся скіраваны на разбурэньне непарадак, пасеў ненавісьці паміж вернікамі ды самаўладны захоп Ейных частак шкоднікамі.

Сьв. пам. Мікалай Войтэнка як мог ды ўмеў імкнуўся да гэтага вялікага няшчасьця не дапусьціць, а калі ягоныя намаганьні не ўдаліся, моцна перажываў выніклую з закалоту слабасьць БАПЦ й Ейную нямогласьць з гэтае прычыны пачаць рух за аўтакефалію ў нядаўнія гады нацыянальнага ўздыму на Бацькаўшчыне.

Аднак ён ні на мамэнт ня сумняваўся, што выбраў правільны й дагодны Богу шлях, ды верыў, што Праўда, змаганьню за якую прысьвяціў да канца сваё жыцьцё, пераможа й з гэтай верай і пэўнасьцяй спакойна адыйшоў, каб стаць у ліку годных перад Божым абліччам.

Пахавальную Службу ў Украінскай Царкве-Помніку Сьв. Ап. Андрэя ў Баўнд Бруку, у пятніцу рана 26-га ліпеня, адправіў Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў з архімандрытам Інакентам, а паховіны адбыліся на могільніку БАПЦ у Іст Бразвіку.

Над магілай, пасьля кароткае адправы й прапяяньня "Сьпі пад курганам герояў", прачуленае разьвітальнае слова сказаў Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў.

Кінуўшы жменю зямлі на дамавіну й пасьля апошняга на яе позірку, прыяцелі ды знаёмыя, што прыйшлі ўшанаваць памяць памерлага, падаліся на зладжаны сям'ёю разьвітальны стол, дзе дзяліліся між сабою ўспамінамі аб спачылым.

Прысьвечаныя добрай памяці нябожчыка словы пры гэтай нагодзе, ад свайго ймя ды ад царкоўных уладаў, або грамадзкіх арганізацыяў сказалі сп.сп. Б. Данілюк, М. Тулейка й Ул. Курыла.

На заканчэньне успамiннага пачастунку ўдава сьв. пам. Мікалая Войтэнкі, сп-ня Ганна й ягоны сын. Леанід, падзякавалі прысутным за ўшаваньне памяці спачылага.

За ягонае ахвярнае й карыснае Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве, ды Беларускаму Народу жыцьцё, няхай-жа Бог дасьць яму вечны спачын, а памяць па ім хай пераходзіць з пакаленьня ў пакаленьне.

**Барыс Данілюк**

## ПСАЛЬМЫ

Цяжка ўявіць адправы праваслаўнае царквы бяз псальмаў. Яны ўбудаваныя цалком, або часткамі ў кожную зь іх: поры, ранічню й вячорню, ды літургію. Няма сумневу, што яны былі й пачатным узорам, зь якога пайшло шмат іншых літургічных тэкстаў.

І ня дзіва, бо роўнае красою пабожнае паэзыі нідзе ў сьвеце не знайсьці. А што псальмы - паэзія сьветчыць нятолькі прыгаство мовы ды пачуцьцёвая ўзвышанасьць зьместу, але й паэтычная форма напісаньня ў гэбрайскім арыгінале

Беларускаму чытачу, нажаль, гэтая духовая насалода ў паэтычным перакладзе на родную мову дасюль недаступная.

Праўда, яшчэ Скарына прабаваў прытарнавацца да гэбрайскіх узораў, перакладаючы псальмы сылябічным вершам ("...разделил есми вси псалмы на стихи по тому, яко ся выных языцех делить"), але знайсьці іх можна адно ў калекцыянэрскіх, або навуковых выданьнях, ды й тады мова, на якой напісаныя, пасьля амаль 500 год, нялёгка даецца чытаць.

Што да пазьнейшых перакладаў, дык вершаваная бу-

дова псальмаў у іх ня выяўленая, за што, зрэштай, і нельга аўтараў вінаваціць, бо гэта ўжо выходзіла-б за рамы тэкставае дакладнасьці ў абсяг мастацтва.

Усё-ж, нястача таго, што ёсьць у іншых мовах, як напрыклад "The Psalms. Singing version. A new translation from the Hebrew arranged to the psalmody of Joseph Gelineau" паангельску ды ў г. зв. "Bible de Jerusalem" пафранцуску, пазбаўляе беларускага наагул, а асабліва пабожнага чытача адчуваньня прыгаства й глыбокага дзіваваньня з Божае велічы й мудрасьці.

Каб даць хоць малую параду на гэтую нястачу "Царкоўны Пасланец" з папярэдняга нумару пачаў і, калі Бог дасьць, будзе працягваць друкаваньне псальмаў у вершаваных перакавах Барыса Данілюка.

Пры гэтым робім, аднак, націск на слова "пераказ", таму, што ня гледзячы на сумленныя намаганьні захаваць зьмест псальмаў як найбліжэй да падрадковага перакладу, у вершы, усё-ж, даводзіцца няраз выказваць сэнс іншымі словамі й фразамі.

Таксама, замест прытарнаваньня да арыгінальнае рытмікі й радковае меры, зьмяшчаныя ў "Ц.П." пераказы ймкнуцца наблізіцца да нашае народнае песьні.

Усе гэтыя захады, аднак, пойдуць надарма, калі нашыя чытачы ня будуць мець хоць мінімальных весткаў, што датычаць гісторыі, літаратурнае формы, літургігічнага ўжытку ды духовых вартасьцяў псальмаў.

З увагі на гэта ніжэй мы даем кароткія да іх уводзіны.

Вось-жа псальмы - гэта малітвы Веташняга Наказу, што былі сьпяваныя з музычным акампанімэнтам падчас прылюдных упрашаньняў у Ярузалімскай сьвятыні.

Самое слова "псальм" пайшло ад грэцкага "псалтэр'ён", што называе інструмант, на якім пяяньне гэтых малітваў суправаджалася. У гэбрайскай мове псальмы найбольш апісваюцца роўназначным словам "мізмор", але ёсьць і названьні адпаведныя словам "песьня" й "гімн".

Традыцыя прыпісвае стварэньне псальмаў цару Давіду, але досьледы паказалі, што склалі іх у розныя поры розныя аўтары, адным зь якіх быў магчыма й Давід.

Усіх псальмаў налічваецца 150 і былі яны складзеныя працягам колькі стагодзьдзяў перад пачаткам хрысьціянскае эры. Выглядае, што да таго, як у трэйцім стагодзьдзі да Х.Н., гэтыя псальмы былі ўнятыя ў канчатковы зборнік, ці "псалтыр", існавала некалькі меншых іхных сьпіскаў.

Карыстаючыся псалтырам трэба памятаць, што йснуюць дзьве розныя нумарацыі псальмаў: адна гэбрайская, якою карыстаюцца й пратэстанты, ды другая, што пайшла з пачатнага грэцкага перакладу (г. зв. Сэптагінту), і якое прытрымоўваюцца праваслаўная ды каталіцкая царквы, хоць апошняя ўжо пачала дапушчаць гэбрайскую сыстэму ( прыкл. у г. зв. Ярузалімскай Біблії).

Розьніцы ў нумарацыі паказаныя ніжэй:

Гэбр. 1 - 8, 9 / 10, 11 - 113, 114 - 115, 116,
Прав. 1 - 8, 9, 10 - 112, 113, 114/115,
Гэбр. 117 - 146, 147, 148 - 150.
Прав. 116 - 145, 146/147, 148 - 150.

Паводле зьместу псальмы дзеляцца на некалькі катэгорыяў, а гэта:

1. Гімны (хвалаваньні) - пс. 8, 18, 28, 32, 46-47, 75, 83, 86, 92, 95-99, 102-105, 112, 113, 116, 121, 134, 135, 144-149;

2. Галашэньні (прасьбы) асабовыя - пс. 3, 5-7, 12, 16, 21, 24, 25, 27, 30, 34, 37, 41-42, 50, 53-56, 58, 61-63, 68-70, 85, 101, 119, 124, 129, 139-142;

3. Галашэньні (прасьбы) народныя - пс. 11, 43, 59, 73, 78, 79, 82, 84, 105, 122, 128, 137;

4. Падзякі - пс. 17, 20, 29, 32, 33, 39, 64-67, 91, 114/115, 117, 123, 128, 137, 143.

Апрача гэтага ёсьць псальмы, што пададзеным катэгорыям ня зусім адпавядаюць і некаторыя зь іх часам вылучаюцца ў асобныя меншыя групы, як:

5. Павучальныя - пс. 1, 111, 126;

6. Прарочыя - пс. 2, 49, 74, 80, 81, 84, 94, 109 ды інш.

Трэба зьвярнуць увагу яшчэ на тое, што частка псальмаў г. зв. царніх, у зьмесьце якіх ёсьць прароцтвы, прасьбы за й ад цара (даўняга ізраільскага, ведама-ж, а не маскоўскага), падзяка за яго, ягонае хвалаваньне Бога й інш. - сьпярша мелі дачыненьне да ўладароў Давідавага роду, а пасьля ўпаду манархіі пачалі разумецца як прароцтвы прыйсьця й гаспадарства мэсіі, а паміж хрысьціянамі, як прадбачаньне Хрыстовага збаўленьня (пс. 2, 17, 19, 27, 44, 60, 71, 83, 100, 109, 131, 143).

Падчас адправаў, ці ўпрашаньняў у Ярузалімскай сьвятыні ды, пэўна, у сынагогах наагул псальмы сьпявалі кантары, або іхныя групы, ці нават цэлыя хоры сьпевакоў пры музыкальным акампанімэнце, сьлед чаго відзён у прыпісах да некаторых зь іх, як "псальм Асафу", або "Карэявым сыном" ды з музычных і літургічных заўвагаў таксама.

У гэбрайскім арыгінале псальмы падзеленыя на звароткі ад двох да шаснаццаці радкоў, дзе кожны радок, хоць розны лікам складоў, але з той самай колькасьцяй націскаў.

У англа- й франкамоўным перакладах псальмаў, што былі тут успомненыя, адпаведную да арыгіналу форму ўдалося захаваць і тое самае, бяз сумневу, можна зрабіць пабеларуску, каб даць нашаму чытачу магчымасьць запраўды пазнаёміцца з гэтымі выдатнымі творамі ды адчуць іхную красу.

Калі-ж гэта станецца будзем з таго цешыцца ды ганарыцца нашым, хоць малым дакладам да добрае справы.

А каб яна не заціхла ды ня скончылася добрымі пажаданьнямі будзем, як сказана ўпачатку, паводле магчымасьці зьмяшчаць далейшыя пераказы псальмаў ды, калі спатрэбіцца, варочацца да іхнага выясьненьня.

Апрача таго спадзяемся, што гэтая ініцыятыва "Царкоўнага Пасланца" выкліча водгук у сэрцах і думках нашых паэтаў, ды натхніць іх скласьці лепшыя пераклады псальмаў за тыя, што мы друкуем, а мо й дасьць пачатак арыгінальнай рэлігійнай паэзіі ў беларускай літаратуры.

Ды яшчэ маем надзею, што нараджэньне беларускае рэлігійнае паэзіі выкліча адгалос і ў нашых музыкаў, ды з гэткага супрацоўніцтва загучыць багацьцем музычнага хараства й нашая, так нам патрэбная, пабожная песьня.

Папраўка: у 14-й зваротцы зьмешчанага ў папярэднім нумары "Ц.П." 43(44)-га псальму ў першым радку паміж словамі "мы" ды "зьнявер" выпала "ў", уставіўшы якое радок павінен чытацца "Калі-б упалі мы ў зьнявер,".

Просім выбачэньня за памылку!

## ПСАЛЬМ 1
(Пераказ Б.Д.)

Шчадроны той,
што негадняў намовам
ніколі веры не дае
ды йдзе здалёк
ад грэшніцкіх дарогаў
й глумныя зборы абміне,
а дзее ўскрозь
паводле Божых словаў
ды важыць іх уноч і дзень.

Бы дрэва ён
над бруям ручаёвым,
што вогкасьць маючы расьце
ды кожны год
ўраджае буйным плодам
й зялёны ліст на ім увесь;
вось гэтак, во,
век добрых спору повен,
а па благіх загіне сьлед.

З таку як проч
дзьме вецер асьцюкоўе
благіх Апошні Суд зьмяце
ды аніхто
із грэшнікаў ня знойдзе
спачыну ў годных грамадзе,
бо мае Бог
шлях добрых у ахове,
а сьцеж ліхіх да згубы йдзе.

## ПРАЎДЗІВЫ ВОБРАЗ МАСКОЎСКАЕ ПАТРЫЯРХІІ

Ад Рэдакцыі:

*Прапануем нашым чытачом пазнаёміцца з артыкулам ведамага рэлігійнага й грамадзкага дзеяча, народнага дэпутата Расеі, сьвятара Глеба Якуніна.*

*У 1964 г. Г. Якунін быў адным з аўтараў публічнага ліста пра ўмовы існаваньня Праваслаўнае Царквы ў СССР. У 1979 г. адзін з заснавальнікаў Хрысьціянскага Камітэту Абароны правоў веруючых. Быў арыштаваны й колькі год правёў у савецкіх лягерох.*

*У многіх публікацыях Г.Якуніна апісаны мэханізм узьдзеяньня савецкае сыстэмы дзяржаўнага атэізму на Царкву з мэтай падпарадкаваньня апошняй. У сваёй грамадзкай і публіцыстычнай дзейнасьці Г.Якунін вялікую ўвагу надае праблемам дэмакратызацыі ўнутрыцаркоўнага жыцьця ў СССР і Расеі.*

*Ніжэй пададзены артыкул друкуецца ў скароце й у перакладзе на беларускую мову паводле публікацыі з газэты "Молодь України" (##18-21, Люты, 1996 г.).*

### УСТУП

Постсавецкая Расея сёньня, як ніколі, патрабуе духовага апірышча. Звычайна, у пошуках найвышэйшае праўды многія людзі зьвяртаюцца да тысячагадовае хрысьціянскае традыцыі - да расейскага праваслаўя. Некалькі пакаленьняў расіянаў, пазбаўленых элемэнтарных рэлігійных ведаў пацягнуліся ў храмы, думаючы, што яны далучаюцца да царквы, пачатак якой даў князь Уладзімер, які ахрысьціў Русь у 988-м годзе - царквы прападобных Сяргея Раданежскага й Сэрафіма Сароўскага.

Насамрэч, гэта не так. У 1927-м годзе законнае цэнтральнае кіраўніцтва Праваслаўнай Расейскай царквы перарвалася пад бальшавіцкім гвалтам, а рэшта хрысьціянаў, ратуючыся ад загубы, пайшла ў катакомбы.

У 1943-м годзе на месцы праўдзівай Царквы Сталін і Бэрыя з прадстаўнікоў завербаванага чэкістамі "часовага сыноду" мітрапаліта Сяргея (Страгародзкага) утварылі Маскоўскую патрыярхію. Розыгрыш"рэлігійнае карты" ў часе цяжкое вайны пачаў Сталін, дзеля чаго Л.Бэрыю й палкоўніку дзяржбясьпекі Г.Карпаву было даручана "адрадзіць" праваслаўную царкву, а сьпешна абвешчаны Патрыярхам Усяе Русі Мітрапаліт Сяргей пачаў паскорана тварыць Маскоўскую патрыярхію ў СССР і ў замежжы. Парушыўшы ўсе кананічныя нормы, багаборчая ўлада у 1943-44 г.г. стварыла зусім новую, чужую праваслаўнай традыцыі рэлігійную арганізацыю таталітарнага тыпу, з новымі, раней няіснуючымі царкоўнымі правіламі, з кіраўнічай структурай рыхтык сталінскага палітбюро ("мітрапалітбюро"), мэтай якога была служба бязбожнай таталітарнай уладзе пад прыкрыцьцём рэлігійнай дзейнасьці.

З падобнай "перадгісторыі" цалкам лягічна вынікае поўнае няўспрыняцьце сучасным кіраўніцтвам РПЦ гэтак неабходных грамадзтву рэформаў і гамаваньне патрыярхійным кіраўніцтвам спробаў царкоўнага адраджэньня зьнізу.

Вось чаму праваслаўныя парахвіі ў былых рэспубліках СССР пасьля здабыцьця іхнымі дзяржавамі незалежнасьці масава адмежаваліся ад Маскоўскай патрыярхіі. З гэтага гледзішча найхарактэрная сытуацыя на Ўкраіне й у Эстоніі, дзе ўжо быў досьвед аўтакефальных самастойных цэркваў. Гістарычная заява Аляксея ІІ-га пра некананічнасьць згаданых незалежніцкіх імкненьняў базуецца выключна на фэдальна-бальшавіцкіх уяўленьнях пра царкоўнае права й мала чым розьніцца ад аналягічных заяваў прыхільнікаў аднаўленьня Савецкага Саюзу ў былых межах.

Гісторыя праваслаўя ў СССР і Расеі пасьля 1917-га году замоўчваецца й татальна перакручваецца ў інтарэсах Маскоўскай патрыярхіі, й гэта знаходзіць падтрымку як сёньняшніх ўладаў, гэтак і палітычнай апазіцыі ад Зюганава да Жырыноўскага.

### ЦАРКВА Ў РАСЕІ: ТРОХІ ГІСТОРЫІ

Ад 988-га году праваслаўе сталася на Русі дзяржаўнай рэлігіяй. Разам з хрышчэньнем князем Уладзімерам была перайнята бізантыйцкая мадэль адносінаў дзяржавы й Царквы - цэзарапапізм, што значыць фактычнае падпарадкаваньне Царквы абсалютнай царскай, а потым імпэратарскай уладзе.

Ты ня менш, усё ж Царква існавала й паводле сваіх нутраных правілаў: усе найважнейшыя рэлігійныя пытаньні вырашаліся саборна.

У 1721-м годзе імпэратар Пётр І-шы скасаваў саборнасьць Царквы, утварыўшы падпарадкаваны сабе Правячы (Кіраўнічы) Сынод, які складаўся з некалькіх чалавек і меў уладу большую за Патрыярха й Памесны Сабор разам узятых. Гэта была яўная зьнявага кананічных правілаў Царквы! Усе архіярэі пісьмова пагадзіліся з падрыхтаваным указам Імпэратара й далі яму прысягу на вернасьць як "кіраўніку й апошняму судзьдзі Правячага Сыноду". Сябры Сыноду атрымалі правы сяброў Сэнату ды адпаведныя прывілеі: высокія грашовыя пэнсіі, прыгонных, пазалочаныя карэты, мэдабслугу.

Гвалтоўнае парушэньне ў XVIII-XIX ст.ст. саборнасьці Царквы, ператварэньне япіскапаў ва ўрадавых прывілеяваных чыноўнікаў-рабаўласьнікаў, а сьвятароў - у наглядачоў за рабамі, - усё гэта спарадзіла найглыбокі духоўны крызіс у Расеі, ды, урэшце, прывяло да катастрофы 1917-га

году. Падаў аўтарытэт Царквы ў народзе, большала прорва паміж вернікамі і сьвятарствам, паміж ніжэйшым сьвятарствам і япіскапатам. Кожны апазыцыянэр да ўраду аказваўся й па-за ўдзяржаўленай, зьбюракрачанай Царквой.

### АДНАЎЛЕНЬНЕ САБОРНАСЬЦІ

Толькі ў жнівені 1917-га году, упяршыню пасьля 1690-га году, адкрыўся Памесны Сабор Праваслаўнай Расейскай Царквы. Ва ўмовах падзеньня праваслаўнай манархіі было адноўлена патрыяршаства, але не ў адзінадзяржаўнай, а ў саборнай форме, бо ўсе найважнейшыя пытаньні царкоўнага жыцьця зноў пачалі вырашацца саборна. Сьвяты патрыярх Ціхан апынуўся з Волі Бога Патрыярхам усяе Расеі.

У жніўні 1918-га году Памесны Сабор прызнаў недапушчальнай палітычную дзейнасьць сьвятароў ад імя Царквы. Архіярэі, сьвятары й сьвецкія асобы маглі браць удзел у палітычнай дзейнасьці толькі індывідуальна. Сабор пракляў варожую да Бога ўладу й забараніў веруючым зь ёй супрацоўнічаць.

### ЗЬЯЎЛЕНЬНЕ ЦАРКОЎНАГА САМАЗВАНЦА

У часе жудасных перасьледаў й рэпрэсый з боку ГПУ, у 1927-м годзе мітрапаліт Сяргей (Страгародзкі) выкарыстаў арышт месцаблюсьціцеля патрыяршага пасаду сьвятамучаніка Пятра (Палянскага) і абвясьціў сам сябе, насуперак канонам і статуту Царквы "намесьнікам патрыяршага месцаблюсьціцеля". Самазванец стварыў пры сабе антыкананічны "часовы сынод", што надзвычай хутка быў прызнаны Савецкай уладай і ГПУ. Яшчэ ў 1922-м годзе Сяргей падтрымаў абнаўленскі раскол, які абвясьціў адхіленьне арыштаванага Патрыярха Ціхана.

Захоп Мітрапалітам Сяргеям (Страгародзкім) з дапамогай ГПУ адміністрацыйнае ўлады над Царквою фактычна ліквідаваў нядаўна адроджаную саборнасьць. Так, у 1927-м годзе кананічная спадкаемнасьць афіцыйнай вярхоўнай улады ў Праваслаўнай Расейскай царкве перарвалася.

Паводле Статуту 1917-18 г.г. вышэйшае царкоўнае кіраўніцтва ва ўмовах немажлівасьці ягонага кананічнага працягу адсоўвалася наагул, а япіскапы павінны былі захаваць парафіянаў і абшчыны ў сваіх рэгіёнах да часу, калі правядзеньне законнага Памеснага Сабору будзе магчымае.

Таму, паводле нормаў Усходняе царквы, усе акты мітрапаліта Сяргея й ягонага Сыноду ад часу абвешчаньня самога сябе "намесьнікам патрыяршага месцаблюсьціцеля" былі глыбака антыкананічныя, былі царкоўным злачынствам. За ўчынены ім закалот, паводле правілаў Сьвятых Сабораў, мітрапаліт Сяргей мусіць быць пазбаўлены сану й адлучаны ад царквы.

### "НОВЫ ЗАПАВЕТ" ЮДЫ З Д'ЯБЛАМ

У 1927-м годзе новы Юда мітрапаліт Сяргей апублікаваў сваю славутую дэклярацыю, дзе радасьці сацыялістычнае дзяржавы абвясьціў радасьцямі царквы. "Вашыя радасьці - нашыя радасьці" - пісаў ён камуністычным уладаром.

Пасьля абнародваньня дэклярацыі, афіцыйны й канчатковы раскол у царкве стаў непазьбежны. Больш за 60 архіярэяў, не прачуленых "радасьцяй" бязбожнікаў, пакутвалі ў салавецкіх лягерох. Ня прызналі дэклярацыі й найаўтарытэтныя мітрапаліты, якія мелі кананічныя ўпаўнаважаньні ад Памеснага Сабору на ачоленьне цэнтральнага апарату царквы на выпадак адсутнасьці патрыярха, а таксама й тыя, хто быў у выгнаньні. Кананічныя законныя архіпастыры дабраславілі вернікаў на непадпарадкаваньне самазванцу й на адыход у падпольле.

У 1930-м годзе, калі мітрапаліт Сяргей заявіў замежным журналістам, што ў Расеі няма перасьледу царквы, быў зачынены апошні манастыр, а колькасьць навамучанікаў даходзіла да дзесяткаў і соцень тысячаў.

У 1934 годзе новы Юда пачаў падступна называць сябе месцаблюсьціцелем пры жывым і законным месцаблюсьціцелі мітрапаліце Пятру, які цярпеў за Хрыста ў вязьніцы.

Д'ябал, як бацька ўсялякае хлусьні, не шкадаваў і адступнікаў, якія далучыліся да новага Юды. У 1939-м годзе ў СССР легальна дзейнічала толькі каля 100 парахвіяў і толькі 4 падпарадкаваных мітрапаліту Сяргею архіярэяў. Рэпрэсавалі многіх калябарантаў, царкоўных стукачоў.

### З ІІІ-га ІНТЭРНАЦЫЯНАЛУ - ІІІ-ці РЫМ

У 1943-м годзе выгнаны тыфліскі сэмінарыст І.Сталін вырашыў выкарыстаць з палітычнай мэтай мільёны расіянаў за мяжой ды аб'яднаць краіны постбізантыйцкае прасторы (Усходняя Эўропа й Балканы) пад крылом Масквы, як Трэйцяга Рыму, разыграўшы этнічна-канфэсыйную карту.

У Крэмль выклікалі трох сергіянскіх актывістаў мітрапалітаў Сяргея (Страгародзкага), Аляксея (Сіманскага) й Міколу (Ярушэвіча), выдзяліўшы на гэта ўрадавы самалёт і сабраўшы па канцлягерох лаяльных япіскапаў для абраньня новага "патрыярха". Тэрмінова было праведзена колькі сумнеўных хіратоніяў, у выніку чаго 19 чалавек абвясьцілі сябе нібы Праваслаўным Саборам, на якім, парушыўшы найвызначальныя каноны ўсяленскага й расейскага праваслаўя, абвясьцілі Сяргея Страгародзкага "Патрыярхам усяе Русі".

Сталін і Бэрыя назвалі новастворaную Маскоўскую патрыярхію гэтаксама па-новаму: "Руская Праваслаўная Царква" замест традыцыйнага "Расійская", акцэнтуючы яе нацыяналістычны характар і ролю у барацьбе з т. зв. касмапалітызмам.

У лютым 1945-га Сталін вырашыў надаць новастворанай "чырвонай сэкце" ўсесаюзнага маштабу й міжнароднага аўтарытэту, дзеля чаго на дзяржаўны кошт арганізаваў у Маскве так званы "Памесны Сабор РПЦ". Прыбылых на так званы "Сабор" замежных гасьцей, перадусім прадстаўнікоў усходніх праваслаўных Цэркваў, Сталін падкупіў шчодрымі дарамі, сьвяточнымі шатамі й ўборамі з золата, каштоўнымі камянямі ды даляровай гатоўкай.

Красамоўным пацьверджаньнем гэтаму можа быць ліст патрыярха Аляксея да кіраўніка Савету па справах РПЦ генэрал-лейтэнанту Г.Карпаву ад 20.11.1947-га году: "*Разам з ідэйнай цягай да Масквы, Антыёхійскі Патрыярхат мае надзею, што Расейская царква й асаб-ліва Расейскі Ўрад - адновіць даўнюю традыцыю сыстэ-матычнай матэрыяльнай дапамогі беднай Антыёхійскай Царкве.. Менавіта дзяржава...да рэвалюцыі шырока субсыдыявала Антыёхійскую Царкву, сыходзячы з дзяржаўных меркаваньняў пра неабходнасьць падтрымкі праваслаўя на Ўсходзе. Мітрапаліт Ільля згадзіўся быць нашым афіцыёзным (не афіцыйным) пасярэднікам між намі й П[атрыярхамі] грэкамі; і тут, на ягоную думку, вырашальным фактарам ёсьць ступень нашай магчымасьці даваць ім грошы...*".

Каштоўныя дары, ікра, каўкаскія віны й каньякі былі для ўдзельнікаў Сабору ў голадзе й разрусе 1945-га году бы маннай нябеснай, пад якую насуперак канонам праваслаўнай царквы было прынята "Часовае палажэньне пра кіраваньне РПЦ". Калі імпэратары да 1917-га году лічыліся ўсё ж праваслаўнымі хрысьціянамі, дык цяпер афіцыйныя структуры Царквы абсалютна падпарадкаваліся волі правадыроў атэістычнага рэжыму. Такога падзеньня царкоўная гісторыя за 2000 гадоў хрысьціянства яшчэ ня ведала!

"Патрыярхам усяе Русі" на "саборы" 1945-га году некананічным адкрытым галасаваньнем быў абраны мітрапаліт Аляксей (Сіманскі), які дыскрэдытаваў сябе актыўнай дапамогай ГПУ й удзелам у абнаўленскім закалоце ў 1922-23 г.г.

**Глеб Якунін**

*(Працяг будзе)*

## СЛУЖБОЎНІК

**(Працяг з н-роў II і III/1995 ды I/1996)**

Пачынаючы чацьвертую частку развагаў над перакладам выдадзенага ў 1994-м годзе ў Таронта "Служ-боўніка" ўзноў, нажаль, даводзіцца зрабіць пару паправак папярэдня надрукаванага тэксту ("Ц.П." № 1/38/48, Вялікдзень 1996).

Гэтак на 7-ай бачыне, у 3-м радку зьверху левае градкі паміж словамі "жыцьцятворчай" і "дабрадатная" трэба паставіць коску, а ў 23-м радку зьнізу правае градкі на той самай бачыне слова "даць" павінна быць у двукосьсі.

Апошнім разам развагі над перакладам спыніліся пасьля хэрубімскае песьні й таму трэба пачынаць з таго мейсца, што йдзе ўсьлед за гэтай песьняй.

Хоць перакладнік пакідае яго безназоўным, аднак, пацаркоўна-славянску яно называецца "1-я просительная ектения", дык і нам варта было-б пашукаць яму назову.

Пакольki-ж "ектения" нічога іншага, як шэраг зваротаў да Бога па Ягоную ласку, што панашаму найлепш акрэсьліваецца словам "упрашаньне" і зь ім ужо іншага выводнага ад "прасіць" слова злучыць нельга, дык у думку прыходзіць з англамоўнага перакладу тэрмін "oblation", або "дарэньне", й з гэтага можна было-б стварыць назоў "за-дарэннае", ці "за-даровае ўпрашаньне".

Як і ў папярэдніх, таксама і ў гэтым упрашаньні даволі сэнсавых і моўных агрэхаў, каб зрабіць яго непадыходным да карыстаньня.

Пачынаецца яно ў перакладніка заклікам "выканаем малітву нашу Госпаду", хоць ц.-славянскае "исполнить" ня значыць "выканаць", а "дапоўніць", ці "даканаць".

Да таго перакладнік будуе гэты заклік стаўляючы займеньнік у абсечаным паводле савецкае рэформы скароце "нашу" пачужому пасьля назоўніка "малітву" ды выгалошвае ўсё ў абвесным ладзе, замест клічнага, ці загаднага.

Таму пераклад заклiку павінен быў-бы гучэць "дапоўньма нашую малітву (прасьбу) да Госпада (Гаспадара)".

Падобныя памылкі йдуць у кожным заклiку далей і ў кароткім артыкуле зь імі ня справіцца.

Нельга, аднак, не заўважыць, што ўва ўпрашаньні гаворыцца "о принесенных честных дарех", а ня "о...жертве" й таму трэба перакладаць не "за прынесеную каштоўную ахвяру", а "за прынесеныя каштоўныя дары Госпада (Гаспадара) ўпрашайма".

Скрыпам па шкле гучыць непатрэбны палянізм "анёл" замест сугучнага з нашай мовай і, ад Скарынавае Біблії пачаўшы, найбольш ужыванага "ангял".

Яшчэ й прасьба "падай Госпадзі", як ужо раней гэтта казалася, гучэла-б больш пабожна, каб яе заступіць выслоўем "зволь даць, Госпаду (Гаспадару)".

Урэшце ў канцавым выгаласе між упрашаньнем і Сымбалям веры "двери, двери, премудростію вонмем", "премудрость" пабеларуску перакладаецца "наймудрасьць", а "вонмем" замест "уважайма", што мае хутчэй асьцерагальны сэнс, словам "цікуйма".

Таму гэты выгалас лепш і дакладней гучэў-бы "дзьверы, дзьверы, з наймудрасьцяй цікуйма".

Пасьля гэтага выгаласу сьпяваецца Сымбаль, або Выяў веры, што, як ведама, складаецца з 12-ці частак, ці складоў, пераклад якіх, пачынаючы йз ц.-славянскага тэксту, разгледзім адзін за адным.

1. "Верую во единаго Бога Отца, Вседержителя, Творца небу и земли, видимым же всем и невидимым".

Перакладнік "Службоўніка" перапказвае гэта як: "Верую ў адзінага Бога Айца, усеўладарнага, Тварца неба і зямлі, усяго бачнага й нябачнага".

Адразу-ж тут вуха турбуе неўпадобнае беларускай мове "верую", замест якога трэба казаць "веру", а да сьпеву, магчыма, упачатку прыстаўляць "я".

"Един" па ц.-славянску ня значыць "адзіны", а "адзін", чаго прытрымоўваюцца ў перакладах на ўсе мовы й нам трэба гэтак рабіць.

Праз замену назоўніка "Вседержитель" прыметнікам "усеўладарны" без патрэбы губляецца сэнс і павага тады, калі можна яго пераказаць злучэньнем "над усім Уладар".

Яшчэ й мейсца "Творца небу и земли" лепш укладаецца ў нашую мову апісальным спосабам "што неба й зямлю стварыў".

У выніку зробленых заўвагаў 1-шы склад Выяву веры павінен быў-бы гучэць: "(Я) веру ў аднаго Бога Айца, над усім Уладара, што неба й зямлю стварыў, ды ўсё бачнае й нябачнае".

2. "И во единаго Господа Іисуса Христа, Сына Божія, единороднаго, Иже от Отца рожденнаго прежде всех век, Света от Света, Бога истинна от Бога истинна, рожденна, несотворенна, единосущна Отцу, Имже вся быша".

Пераклад у "Службоўніку" зроблены вось як: "І ў адзінага Госпада Ісуса Хрыста, Сына Божага, адзінароднага, ад Айца роджанага перад усімі вякамі: Сьвятло ад Сьвятла, Бога праўдзівага ад Бога праўдзівага, няствoранага, але роджанага, адзінаіснага з Айцом, праз Якога ўсё сталася".

Узноў гэтта, замест пастаўленага ў перакладзе "адзінага", павінна быць "аднаго", замест "Сына Божага", "Божага Сына" й на мейсцы нявыразнага "адзінароднага" зусім зразумелым было-б "адзінага", што зрэштай і тлумачыцца ўсьлед, праўда, не папераклaднікаваму "ад Айца роджанага перад усімі вякамі", а гэтак: "што ад Айца нарадзіўся за ўсе вякі перш".

За пераклад "Света от Света" ў "Святло ад Сьвятла" няма ніякае спрэчкі, а вось "Бога истинна от Бога истинна" дакладней і лепш панаску было-б выказаць "Бога папраўдзе ад Бога папраўдзе".

Урэшт "рожденна, несотворенна, единосущна Отцу, Имже вся быша", замест няўклюднага й папераставлянага "няствoранага, але роджанага, адзінаіснага з Айцом, праз Якога ўсё сталася" ў "Службоўніку", больш дагодна нашай мове было-б вылажыць вось як: "што нарадзіўся, ня створаны быў, адзін і той сам ёсьць з Айцом, ды што зь Яго ўсё пайшло".

Разам усё гэта павінна гучэць "І ў аднаго Госпада (Гаспадара) Ісуса Хрыста, Божага Сына, адзінага, што ад Айца нарадзіўся за ўсе вякі перш, Сьвятло ад Сьвятла, Бога папраўдзе ад Бога папраўдзе, што нарадзіўся, ня створаны быў, адзін і той сам ёсьць з Айцом, ды што зь Яго ўсё пайшло".

3. "Нас ради человек и нашего ради спасенія сшедшего с небес, и воплотившагося от Духа Свята и Маріи Девы, и вочеловечшася".

Перакладнік пераказвае гэта як: "Ен дзеля нас людзей і дзеля нашага ратунку зьйшоў зь неба й прыняў цела ад Духа Сьвятога, і стаўся Чалавекам".

Перадусім пастаўленае гэтта напачатку "Ен" ня ў згодзе з будовай папярэдняга сказу й на ягонае мейсца трэба ўзяць "што", таксама як, замест непаважнага "ратунку", павінна быць "збаўленьня" ды ўрэшт грубое зь перастаркавым адценям слова "Дзева" лепш заступіць далікатным і ласкавым "Дзеўна".

Гэткім чынам увесь 3-ці склад Выяву веры прагучыць: "Што дзеля нас людзей і дзеля нашага збаўленьня зь неба зьйшоў, і ўзяў цела ад Сьвятога Духа й Дзеўны Марыі, ды стаў чалавекам".

4. "Распятаго же за ны при Понтійстем Пилате, и страдавша, и погребенна".

У таронцкім перакладзе гэта выказана так: "Быў укрыжаваны за нас пры Понцкім Пілаце, і пакутаваў і быў пахаваны".

Пачынаць гэты сказ, пасьля папярэдняга "ды стаў чалавекам", адразу зь дзеяслова "быў" ніяк немагчыма, бо ў ім працяг думкі з 2-га й 3-га складоў Выяву веры, дзе, пасьля пачатнага "иже" = "той, што", або "таго, што", гэтае "иже", хоць не паўтараецца, але разумеецца ў кожным апісаньні Хрыста й таму, калі не пачынаць з "ды(й)", адпаведнага "иже" "той, што", ці "таго, што" змоўчаць нельга.

"Укрыжаваны" паперш гучыць як палянізм, а апрача таго не дае зразумець, што сталася й на ягонае мейсца лепш было-б паставіць немудрагельнае "на крыж (да крыжа) быў прыбіты".

"Пакутаваць" недастатковае ў гэтым выпадку слова, замест яго павінна быць "цярпеў" ды яшчэ й у злучэньні з "мукі", або "цярпеў мукі".

Гэткім чынам 4-ты склад Выяву веры лепш перакласьці вось як: "(Ды) Што за нас на крыж быў прыбіты пры Понцкім Пілаце, і цярпеў мукі, ды быў пахаваны".

5. "И воскресшаго в третій день по писаніем".

У "Службоўніку" адпаведнае мейсца чытаецца гэтак: "І ўваскрос на трэці дзень, згодна з Пісаньнем".

Слова "ўваскрос" праз тысячу год ад пары, калі яно прагучэла на нашай зямлі, дасюль ня пусьціла кораня ў беларускай мове, ані зь ёю ня зжылося ды застаецца мёртвым і незразумелым дзівосам.

На ягонае мейсца куды лепш казаць "ажыў", або "ўстаў жывы".

"Згодна" ў гэтым выпадку гучыць як непатрэбны канцылярызм, а "Пісаньне", калі прыслухацца, значыць дзею, а на ўвазе гэтта маецца нешта ўжо напісанае й таму традыцыйнае ў нашай мове "(Сьв.) Пісьмо" тут, якраз, на мейсцы.

У выніку вышэй зробленых заўвагаў 5-ты склад Выяву веры лепш гучэў-бы гэтак: "І ўстаў жывы на трэйці дзень паводле Пісьма".

6. "И восшедшаго на небеса, и седяща одесную Отца".

У "Службоўніку" гэтта мовіцца так: "І ўзьйшоў у нябёсы і сядзіць праваруч Айца".

Хоць ц.-славянскі тэкст кажа "на небеса" ў перакладзе чамусь стаіць "у нябёсы", дзе нятолькі "у" не на мейсцы, але й назоўнік парнага ліку "небеса" трэба пераказваць "неба", як гэта й робяць у іншамоўных перакладах ("heaven, Himmel").

У выслоўі "праваруч Айца" просіцца ўпуску ўдакладненьне "(ка-)ля".

Перароблены паводле выказаных гэтта заўвагаў 6-ты склад Выяву веры тады прагучыць вось як: "І на неба ўзьйшоў і сядзіць праваруч ля Айца".

Больш, нажаль, сёньня на агляд перакладу "Службоўніка" няма мейсца й таму, дасьць Бог, працягнем яго ў наступным нумары "Царкоўнага Пасланца".

**Барыс Данілюк**

## ДА 205-Х УГОДКАЎ ПІНСКАЕ КАНГРЭГАЦЫІ

Неадзначаны ды нат незаўважаны ў пацёку розных угодкавых справінаў пяць год назад прамінуў 200-гавы юбілей аднае з найбольш выдатных падзеяў у гісторыі Праваслаўнае Царквы ў нашым Краі.

Гэтай слаўнай падзеяй была Пінская Кангрэгацыя, або Сабор Праваслаўнае Царквы ў Рэчыпаспалітай, а дакладней кажучы ў Вялікім Княстве Літоўскім, што адбыўся ў 1791-м годзе, ды на якім былі зробленыя першыя фармальныя крокі на шляху да аўтакефаліі.

Каб яна не пайшла зусім у няпамяць, калі сёлета ў чырвені й ліпені ўзноў мінула ейная, хай і невялікая, але ўсё-ж юбілейная дата, варта гэтую падзею адзначыць хоць кароткім ухвальным успамінам.

Галоўнай прычынай ейнага няведама ёсьць, мабыць, шырака распаўсюджанае ўяўленьне, што ў канцы XVIII-га ст. наш народ быў цалком у вуніі й праваслаўных у нашым Краі больш не засталося.

Гэтак, аднак, ня было, бо ў ВКЛ і на ўкраінскіх землях Рэчыпаспалітай праваслаўныя, хоць і дазналі працягам двух стагодзьдзяў ад Берасьцейскае вуніі ў 1596-м годзе нямала жорсткіх перасьледаваньняў і ўціску, ды страцілі вялікую колькасьць вернікаў, усё-ж заставаліся прыкметным веравызнаньнем.

Іхнае рэлігійнае, ці царкоўнае жыцьцё ня было, аднак, нармальным і не з аднае прычыны польска-каталіцкіх зьдзекаваньняў, але й дзеля таго, што ад 1686-га году йз згодай Канстантынопалю яны апынуліся ў юрысдыкцыі Маскоўскага Патрыярхату.

Ненармальную сытуацыю, што стварылася ў выніку зьмены юрысдыкцыі, пад засланкай абароны пакрыўджаных, хітра выкарыстоўвала маскоўская імпэрыялістычная палітыка за прычыну на ўмяшаньне ў нутраныя справы Рэчыпаспалітай, выклікаючы гэтым яшчэ горшыя падазрэньні й дачыненьні да праваслаўных.

Зразумелая рэч, што з гэткага стану рэчаў ня былі здаволеныя нятолькі самыя праваслаўныя, але й прагрэсыўная частка польскага грамадзтва, што ўбачыўшы надыход загубы іхнае дзяржавы, узяліся шляхам рэформаў ратаваць яе ад катастрофы.

Плодам гэтых спробаў ратунку й была прыйнятая соймам вясною 1790-га году, паводле рэкамэндацыі адумысловае камісіі, пастанова праз палепшаньне правоў некаталіцкага насельніцтва й рэарганізацыю Праваслаўнае Царквы ў Рэчыпаспалітай.

Адразу пасьля прыйма пастановы пачалася сьпешная й пасьпяховая праца над ейным ужыцьцяўленьнем.

Ускрозь, дзе жылі праваслаўныя, адбыліся саборыкі, на якіх былі выбраныя сябры дэлегацыі, што апрацавала й прадставіла каралю ды сойму патрэбы й дамаганьні праваслаўных грамадзянаў.

Каб падрыхтаваць на падставе прапановаў гэтае дэлегацыі законадаўныя акты сойм паклікаў адумысловую дэпутацыю з 6-ці паслоў і 3-х сэнатараў і, калі

гэта было зроблена, рана ўвесну 1791-га году, былі высланыя паведамленьні праз скліканьне на 15-га травеня ў Пінску Гэнэральнае Кангрэгацыі, ці йнакш Сабору Праваслаўнае Царквы ў Рэчыпаспалітай.

Таму, аднак, што да гэтае даты заставалася замала часу, яна была адкладзеная да 15-га чырвеня.

На нарады Кангрэгацыі ў Пінск прыбылі 24 прадстаўнікі манаскага й 21 белага духавенства, ды 51 ад вернікаў, у тым ліку 19 шляхцічаў, а рэшта мяшчанаў.

Зьявіліся таксама й госьці: прадстаўнікі каталіцкага й вуніяцкага духавенства, урадаўцы й шляхта пінскага павету, ды афіцыйны дзяржаўны прадстаўнік Міхайла Каханоўскі, які й адчыніў Кангрэгацыю ў Богааб'яўленскай царкве.

Пасьля адкрыцьця Кангрэгацыі й выбару ейнага галавы ў асобе архімандрыта Мотрынскага манастыра на Ўкраіне Ірынарха Баланоўскага, ды іншых патрэбных урадаўцаў, пленарныя паседжаньні былі адкладзеныя да 1-га ліпеня, каб даць магчымасьць створаным з дэлегатаў камісыям апрацаваць праекты арганізацыі Праваслаўнае Царквы ў межах Рэчыпаспалітай, дзе прыблізна палова праваслаўных вернікаў жыла на землях Вялікага Княства Літоўскага.

Пленарная сэсыя Кангрэгацыі узноў зыйшлася ў вызначаным тэрміне 1-га ліпеня й пасьля ўступных фармальнасьцяў разгледзела, перадыскутавала й аднагалосна прыйняла прапанаваныя камісыямі арганізацыйныя правілы Праваслаўнае Царквы.

Гэтыя правілы былі ўкладзеныя ў адзінаццаць разьдзелаў, з колькімі параграфамі ў кожным і ўстанаўлялі, што:

1. Герархія Праваслаўнае Царквы ў Рэчыпаспалітай будзе адно ў духоўнай залежнасьці ад Канстантынопальскага патрыярха й зварочвацімецца да яго толькі ў дагматычных справах і пытаньнях.

2. У справах веры й рэлігійных абрадаў на краёвай кангрэгацыі, ці саборы пастанаўляке толькі духавенства, а адміністрацыйныя й фінансавыя пытаньні разьвязваюцца супольна з прадстаўнікамі вернікаў.

3. Краёвая кангрэгацыя, ці сабор пастанаўляе ўва ўсіх царкоўных справах і павінен зьбірацца што 4-ы гады ды складацца зь япіскапату, старшэйшых архімандрытаў, сяброў галоўнае кансысторыі й выбраных япархіяльнымі зьездамі духоўных, ды сьвецкіх дэлегатаў

4. Краёвы сынод, што складаецца з галавы Царквы й 3-х япіскапаў, стала правіць царкоўным жыцьцём.

5. Галоўная кансысторыя ўрадуе пры галаве Царквы й складаецца з 12-ці сяброў, зь іх па 3-х прадстаўнікоў ад манаскага й белага духавенства, ды шляхты й мяшчанаў.

Толькі ейныя сябры з духавенства маюць права разглядаць пытаньні, што датычаць веры й абрадаў.

6. Япархіямі правяць япіскапы, пры якіх дзеюць сталыя япархіяльныя кансысторыі, сябры якіх выбіраюцца япархіяльнымі зьездамі.

7. Кожная япархія павінна быць падзеленая на пратапопіі (дэканаты) з выбранымі дэканатнымі зьездамі ад духавенства й вернікаў упpавамі.

Дэканатныя зьезды, апрача кіраваньня мяйсцовымі справамі, выбіраюць дэлегатаў на штогадовыя япархіяльныя зьезды.

8. Часовым мейсцам урадаваньня галоўнае кансысторыі будзе места Пінск, а апрача яе будзе яшчэ кансысторыя ў Багуславе, што займацімецца царкоўнымі справамі на Ўкраіне.

9. У кожнай парахвіі павінна быць школа для дзяцей, утрыманьне якое мае быць забясьпечанае складкамі.

10. Справаводзтва царкоўных урадаў павінна быць пісанае ў дзьвёх мовах: польскай ды (бела-)рускай.

У выпадку непатрэбы на дзьве мовы абавязвае польская.

11. У кожнай парахвіі мусіць быць лячэўня (шпіталь) дзеля апекі над хворымі й беднымі парахвіянамі.

Нагляд над гэтай установай павінны мець старшэйшыя брацтвы.

Пасьля прыйма арганізацыйных правілаў Кангрэгацыя выбрала Галоўную Кансысторыю ў складзе: ад духавенства - ейнага галавы, ігумена Бельскага Манастыра Савы Пальмоўскага й сяброў - Сыльвэстра Булая, адміністратара манастыроў Вільнянскае й Менскае Архімандрыі; Пратаса Невяроўскага, скарбніка Слуцкае Архімандрыі; Рыгора Лойка, кіраўніка Тураўскае Парахвіі; Хведара Бятулінскага, чаркаскага пратапопа й Хведара Юзафовіча, кіраўніка Волвіцкае Парахвіі, а ад вернікаў - паручніка Анупрага Сухазанета, Панцялеймана Ількевіча-Корбута й Аляксандра Стаяновіча з шляхты, ды Хведара Тэадаровіча, пінскага прэзыдэнта, Хведара Кандратовіча, мазырскага магістрацкага пісара й Яна Тэадаровіча, пінскага магістрацкага пісара, зь мяшчанаў.

2-га ліпеня выбраная Галоўная Кансысторыя на ўрачыстым паседжаньні Кангрэгацыі дала прысягу на дзяржаўную вернасьць і праца гэтага гістарычнага зьезду скончылася.

Не чакаючы далейшых соймавых і ўрадавых пастановаў Галоўная Кансысторыя з запалам адразу пачала жывую дзейнасьць дзеля ўпарадкаваньня царкоўнага жыцьця.

Польская каталіцкая рэакцыя й ватыканская дыпляматыя ўзьнялі тымчасам перад каралём і ўрадавымі дзейнікамі пратэсты супраць палепшаньня праўнага становішча Праваслаўнае Царквы й узнаўленьня Ейнае герархіі, з чаго зацьверджаньне соймам пастановаў Пінскае Кангрэгацыі зацягнулася ажно да вясны 1772-га году, амаль пярэдадня 2-га падзелу Рэчыпаспалітай.

Кароткі час паміж Пінскай Кангрэгацыяй і гэным падзелам, нажаль, не дазволіў ейным пастановам увайсьці у практыку й вытрымаць жыцьцёвае выпрабаваньне, але мэты, якія яна паставіла перад пабожным і патрыятычным духавенствам, ды вернікамі нашага Краю засталіся важнымі да сёньня.

Сёлетняя юбілейная дата гэтае гістарычнае падзеі заклікае й кладзе на нас абавязак прысьвяціць нашыя думкі й дзеі ўжыцьцяўленьню праз пакаленьні переказанае нам у спадчыне мэты Пінскае Кангрэгацыі - адбу-довы свае роднае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

**Я. Сланімчанін**

## INTERNET І БАПЦ

У ліпені сёлета на бачынах камп'ютарнай інфармацыйнай сыстэмы Internet зьявіўся невялікі тэкст "Belarusian Autocephalous Orthodox Church: A Brief History", які зьмяшчае інфармацыю па гісторы Праваслаўя

ў Беларусі ад узьнікненьня да сучаснасьці ў кантэксьце важнейшых падзеяў мінулага нашага Народу.

Тэкст стаўся часткай вялікага й тэматычна разнастайнага home-page пад назвай "Virtual Guide to Belarus", з дапамогай якога тысячы людзей у сьвеце пазнаёміліся з Беларусьсю.

На World Wide Web ("Сусьветнай Павуціне") тэкст **"БАПЦ: Кароткая гісторыя"** знаходзіцца пад адрасам

**WWW:**

**http://freedom.ncsa.uiuc.edu/~zelenko/baoc/history.html**

Працу па ўсталяваньні тэксту выканаў сп. Зьмітрук Зяленка з Урбаны, Ільлінойс.

БАПЦ мае ў плянах на будучыню стварэньне ўласнага homepage з фота й іншымі візуальнымі матар'яламі ды з тэкстамі ў беларускай і ангельскай мовах дзеля больш поўнага адлюстраваньня жыцьця царквы.

Рэдакцыя "Царкоўнага Пасланца" выказвае вялікую падзяку паважанаму спадару Зьмітруку Зяленку, які свае веды, здольнасьці й час патраціў дзеля пачэснай справы - пашырэньня ў сьвеце ведаў пра Беларускую Царкву й Бацькаўшчыну!

## ДА БІЯГРАФІІ МІТРАПАЛІТА МЭЛЬХІСЭДЭКА

Сёлета ў # 4 менскага часапісу "Нёман" былі выдрукаваны ўспаміны расейскай пісьменьніцы Зінаіды Гіпіус **"Дмитрий Мережковский : в изгнанничество - через Минск"**, у якіх аўтарка прыгадвае сустрэчы на пачатку 1920-га году ў акупаваным палякамі Менску з япіскапам Мэльхісэдэкам.

Невялічкія эпізоды з ўспамінаў пакуль што адзіныя ведамыя на сёньняшні дзень занатоўкі сучасьніка пра асобу, якой Богам і гісторыяй было наканавана стацца адным з арганізатараў менскага Сабору (23.07-10.08.1922), які прыняў гістарычнае рашэньне пра аднаўленьне Мітраполіі Беларускай Праваслаўнай Царквы ды, будучы абраным Мітрапалітам Менскім і Беларускім выводзіць Царкву на самастойны шлях разьвіцьця.

Ідэя аўтаноміі Царквы лягічна разьвілася да ўсьведамленьня патрэбы аўтакефаліі Беларускае Царквы, якая й была ўрэшце зацьверджаная пазьней, на зьездзе духавенства і міранаў у 1927-м годзе ды толькі антыбеларускі й антырэлігійны тэрор перашкодзіў ейнаму ўжыцьцяўленьню.

Нажаль, гісторыкі мала ведаюць пра Сабор і разьвіцьцё ідэі аўтакефаліі Праваслаўнае Царквы ў БССР у 20-х гадох. Мала альбо зусім нічога няведама пра чын і трагічныя лёсы тагачаснага праваслаўнага патрыятычнага духавенства.

Аўтары уступнага артыкулу й камэнтароў да згаданых успамінаў, навукоўцы Л.Званарова й У. Конан грунтоўна схарактарызавалі эпоху й зазначылі тэндэнцыйнасьць і суб'ектывізм успамінаў З.Гіпіус, якая ў тагачасных менскіх рэаліях разгледзела адно толькі польскую прысутнасьць ды "мінскае рускае обшчэства", але не беларусаў. Адпаведна, і вобраз Мэльхісэдэка ва ўспамінах пазбаўлены якога-кольвек беларускага зьместу.

Погляды япіскапа Мэльхісэдэка на беларускую ідэю й царкоўную самастойнасьць Беларусі, на жаль, дагэтуль невядомыя. Ягоная дзейнасьць, аднак, у значнай ступені супярэчыла ідэалёгіі афіцыйнага расейскага праваслаўя.

У пададзенай згаданымі навукоўцамі біяграфіі Мітрапаліта прыводзяцца новыя, раней альбо няведамыя альбо супярэчныя ведамым факты. Гэтаксама, у складзенай менскімі навукоўцамі біяграфіі не згадваецца менскі Сабор 1922-га году, што ўзвысіў Менскага й Тураўскага Архіяпіскапа Мэльхісэдэка на кіраўніка адроджанай самастойнай Царквы.

Прызнаючы важнасьць вывучэньня біяграфіі мітрапаліта Мэльхісэдэка, варта ўдакладніць паасобныя факты, абапіраючыся на публікацыю **"Мітрапаліт Мэльхісэдэк - Паеўскі - аднавіцель Беларускае Мітраполіі"**, якая была выдрукавана ў часапісе "Голас Царквы" (#36, 1972, Нью Ёрк).

Сьвецкае прозьвішча Мітрапаліта ў "Нёмане" памылкова падаецца як Пиевский, тым часам як правільная форма прозьвішча Паеўскі. Дадамо, што нарадзіўся Міхал Паеўскі ў 1878-м годзе ў Шчытнікі блізу Кобрыня ў сям'і псаломшчыка, а пазьней рэгента хору ў мясцовай манастырскай царкве, які там жа праз пэўны час быў рукапаложаны ў сан іярэя. Л.Званарова й У.Конан падаюць раней няведамы факт службы бацькі будучага мітрапаліта ў Камянцы-Літоўскім, а мейсцам вучобы будучага сьвятара М.Паеўскага называюць Казанскую духоўную сэмінарыю. Апошні факт патрабуе праверкі, бо раней лічылася, што М.Паеўскі скончыў Віленскую духоўную сэмінарыю, потым Пецярбурскую духоўную акадэмію.

Далей, паводле "Нёмана", сьвятар Паеўскі выкладаў дагматычнае і маральнае багаслоўе ў Магілеўскай духоўнай сэмінарыі. Згаданая эміграцкая крыніца сьцьвярджае, што быў ён ігуменам Бялыніцкага манастыра Сьв. Мікалая.

Пра пэрыяд 1914-19-х г.г. "Голас Царквы" падае большыя інфармацыі. Паводле часапісу, напачатку будучы мітрапаліт служыў у Таўрыі з тытулам япіскапа Астраханскага, а пазьней быў Ладаска-Пецярбурскім вікарным япіскапам і апякуном сірочага прытулку ў Царскім Сяле. З 1919-га году служыў ён вікарным япіскапам пры Менскім Архіяпіскапе Ю.Ярашэвічу.

Паводле З.Гіпіус, у 1920-м годзе япіскап Мэльхісэдэк быў прыкметнай асобай у інтэлігенцкіх колах Менска. Асабліва падкрэсьліла яна спэцыфічную рысу характара япіскапа Мэльхісэдэка - наватарства: "[Япіскап] *быў цэнтрам захапленьня. ... Прыемна зьдзіўляў арыентацыяй на сучаснасьць. Нагадаў мне лепшых герархаў Пецярбурга часоў першых Рэл[ігійна]-філ[язофскіх] сходаў. Інтэлігентны. І з гэтым бязумоўнае рэлігійная мужнасьць-падзьвіжнітцва*".

У "Нёмане" ёсьць згадка пра вялікую папулярнасьць у Менску брашураў япіскапа Мэльхісэдэка "Слово о входе в Иерусалим" і "Божьей Милостью", па якіх можна было дасьледаваць наватарства аўтара, але гэтых тэкстаў мы, нажаль, ня маем.

Пастановы Сабору 1922-га грунтаваліся, паводле адозвы духавенства, прынятай на зьездзе ў 1927-м годзе, на "*ратуючуй котве ідэі самабытнасьці Беларускай Царквы на нацыянальнае самавызначэньне*" й "*здаровым царкоўным інстынкце самазахаваньня й прагрэсыўнай плыні рэлігійнай думкі... ў гэтым ідэйным руху*". Застаюцца нераскрытымі пытаньні што да адпаведнасьці асобы Мэльхісэдэка ускладзеным на яго заданьням і ягонымі ўзаемадачыненьнямі ці ролі ў згаданай "плыні".

У "Нёмане" гэтаксама пішацца: "*У Менску япіскап Мэльхісэдэк падтрымліваў сяброўскія адносіны з наркамам асьветы БССР Усеваладам Ігнатоўскім, абмяркоўваў ідэю беларусізацыі праваслаўнай царквы. З 1925 жыў у Маскве. Пераражыў усе выпрабаваньні, што выпалі на долю царквы ва ўмовах ваяўнічага бальшавіцкага бязбожніцтва*". Тут варта заўважыць, што Мітрапаліт не абмяжоўваўся "абмеркаваньнем", але меў пэўную праграму дзеяньняў. Ведама, напрыклад, што ў кантакце з Царквою ведамы дзеяч культуры М.Красінкі, які прыехаў у БССР зь Вільні, перакладаў на беларскую мову Біблію.

У публікацыі гісторыка Тацьцяны Процькі **"Забойства Бога"** (газ. "Круг", # 1, 1996, Менск) з дакумэнтаў ГПУ-ЧК прыводзяцца факты пра йснаваньне на пачатку 20-х гадоў групы праваслаўных сьвятароў і грамадзянаў, зацікаўленых у беларусізацыі. Дакумэнты сьведчаць, што карныя ворганы

пільна сачылі за працай нацыянальнага духавенства ўвогуле й Мэльхісэдэка ў прыватнасьці ды не ўхвалялі пэрспэктывы беларусізацыі й царкоўнай самастойнасьці.

Без дадатковых тлумачэньняў у біяграфіі (зрэшты, памер яе быў абмежаваны) згадваецца "переезд" Мітрапаліта ў Маскву, хоць была гэта высылка пасьля кароткага арышту й паказальнага працэсу з фармальнае прычыны нявыдачы дзяржаве царкоўных каштоўнасьцяў. Сапраўдныя матывы высылкі Мітрапаліта з БССР бяз сумніву былі іншыя.

Паводле "Голасу Царквы", мітрапаліт Мэльхісэдэк быў выкліканы ў Маскву ў сьнежні 1924-га году, дзе быў арыштаваны й сасланы ў Сыбір. Праз некаторы час апынуўся ў Краснаярску. У канцы 30-х гадоў, у сувязі з чарговымі зьменамі ў царкоўным жыцьці ў СССР, быў выкліканы ў Маскву, дзе прыступіў да службы ў РПЦ. У канцы 1931-га году памёр у часе аблачэньня перад службай. Абставіны сьмерці й месца пахаваньня мітрапаліта Мэльхісэдэка дагэтуль невядомыя.

**В.Бражэвіч**

*Карэспандэнцыя з Віцебска*

## РЭХА РАЗБУРАНЫХ ХРАМАЎ

У XYIII-XIX ст. Віцебск быў вельмі прывабны для наведвальнікаў сваёй прыгажосьцю. Не апошняе месца ў стварэньні прыгожага гарадзкога асяродзьдзя займалі праваслаўныя храмы, якіх было больш за пяцьдзесят. Але за бальшавіцкім пананаваньнем ды ў часе II-е Сусьветнае вайны храмы былі зруйнаваныя. У эпоху дэмакратызацыі СССР й пасьля абвешчаньня незалежнасьці Беларусі пачаўся працэс аднаўленьня сьвятынных будынкаў, якія аўтаматычна трапялі пад юрысдыкцыю Беларускага Экзархату РПЦ.

Узьнялася Пакроўская царква, царква Сьв. Аляксандра Неўскага, Юры Пераможца. Нанова пачалося ўзнаўленьне Дабравешчанскае царквы - помніка XII ст. Ля ратушовага пляцу археолягі адшукалі падмурак Узьнясенскае царквы, але дасьледаваньне прыпынілася з прычыны нястачы грошай. Прыкра было глядзець, калі чэрвеньскім надвячоркам магутны экскаватар засыпаў раскопкі - мейсца шматдзёнай працы віцебскіх археолягаў, але яшчэ больш дзіўна было пабачыць, як праз колькі дзён побач гэтага месца распачалося будаўніцтва эстрады для фэстывалю "Славянскі базар". Улады ў чарговы раз прадэманстравалі пагарду да шматвяковых традыцыяў беларускага народу, бо выдаткаваныя на будаўніцтва грошы ў некалькі разоў пакрылі б патрэбы віцебскіх навукоўцаў.

Згаданым цэрквам пашанцавала, бо іх усё ж пачалі аднаўляць, чаго нельга сказаць пра іншыя храмы. Савецкая ўлада руйнавала іх, а час зьнішчаў людзкую памяць. Балазе навука захавала зьвесткі пра іх. У 1886-м годзе на беразе Дзьвіны збудавалі Петрапаўлаўскую царкву, якая славілася вялізным крыжом з бізантыцкім пісьмом і вуніяцкай даразахавальніцай. У царкве захоўваўся абраз "Здыманьне з крыжа", які па некаторых зьвестках належаў пэндзлю Сальватора Роза. Напрыканцы XIX ст. абраз трапіў у Пецярбург дзеля правядзеньня аналізу, па выніках якога сьцьвярджалася, што выкананы ён некім са школы Роза. У царкоўным архіве пры храме захоўвалася шмат дакумэнтаў вуніяцкай канфэсіі, бо Петрапаўлаўскі сабор быў катэдрай вуніяцкіх арцыбіскупаў. Але ў 60-х гадох царкоўны стараста Гарбуз скраў ключ ад архіва й спаліў усе дакуманты.

Варта ўспомніць, што прыкладна побач Петрапаўлаўскага храма 15 лістапада 1627-га году быў забіты ў собскім палацы ведамы вуніяцкі сьвяты - душагубца праваслаўных - Язафат Кунцэвіч. Цяпер гэта месца паломніцтва "шматлікіх" вуніяцкіх вернікаў зь Беларусі й Украіны. Сёньня на гэтым месцы, на дзьвінскім узгорку замацаваны праваслаўнымі вернікамі шасьціканцовы крыж Сьв. Эўфрасіньні Полацкае.

Па-над Духаўскім ярам узвышалася адна з найстарэйшых цэркваў гораду - Сьвятадухаўская, заснавальніцай якое лічыцца князёўна Марыя, першая жонка князя Альгерда. Да пераходу царквы з вуніі ў праваслаўе ў ёй жылі манашкі-базыльянкі, якія неўзабаве былі перамешчаны ў Полацкі Сьвята-Эўфрасіньнеўскі жаночы кляштар. Пасьля пераводу царквы ў праваслаўе яна была перабудаваная. У царкве заставаўся пакінуты базыльянамі абраз Маці Божай з малечай Ісусам у руках. Паводле паданьня, гэты абраз быў падарункам Папы Рымскага для базыльянаў.

Віцебск насычаны царкоўнай гісторыяй, у ім гучыць рэха разбураных храмаў.

**Кастусь Віцьблянін**

## ЗАЎВАЖЫЛІ

Як было паведамлена ў папярэднім нумары "Ц.П." на сьвяткаваньні 78-х угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, што адбылося 17-га сакавіка г.г. у залі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне сп. Барыс Данілюк прачытаў кароткі прынагодны зьвест на тэму змаганьня Беларускае Дзяржавы ў розных формах ейнага йснаваньня за доступ да мора.

Даведаўшыся з бачынаў часапісу праз тэму зьвесту другі сакратар Пасольства Рэспублікі Беларусь у Вашынгтоне сп. А. Астроўскі зьвярнуўся ў рэдакцыю зь лістом, у якім выявіў жаданьне займець копію зьвесту для архіву Пасольства.

Ягонае жаданьне было здаволенае ды разам із зьвестам былі пасланыя яшчэ й дзе-якія напісаныя паангельску матарыялы, што датычаць гісторыі БАПЦ.

## ЗАБЫТАЯ ЦАРКВА

У ліпені сёлета на бачынах газэты "Голас Радзімы"(## 27, 28, 29) зьявіўся артыкул старшыні Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" сп-ні Ганны Сурмач пад назвай "**Перасыхае крынічка беларускасьці**", у якім перадаюцца ўражаньні з візыты дэлегацыі ЗБС зь Менску да беларусаў Аўстраліі, а менавіта ў Сыднэй і Мэльбурн, з мэтай "*убачыць набыткі аўстралійскіх беларусаў у арганізацыі ... нацыянальна-культурнага жыцьця*",

Артыкул распавядае пра сустрэчы й знаёмствы, згадвае факты з гісторыі, названыя ў ім амаль усе былыя ды дагэтуль дзейныя беларускія арганізацыі. І толькі Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква не згаданая АНІ СЛОВАМ! Без указаньня юрысдыкцыі называюцца тры парахвіі БАПЦ у Аўстраліі, падаецца фота царкоўнага будынку й інтэр'еру ў Мэльбурне, цёплыя й прыемныя словы напісаныя пра сьвятароў а. А.Кулакоўскага й а. М.Бурноса. "*Цяпер ужо добра вядома, што сапраўды беларускую праваслаўную царкву можна пабачыць толькі ў замежжы*" - піша сп-ня Сурмач.

Гэтая царква мае імя - БАПЦ, замоўчваньне якога зусім не спрыяе засваеньню царкоўна-рэлігійнага досьведу эміграцыі

ў Беларусі ды толькі ўзмацняе чужыя нацыянальна-рэлігійныя ўплывы на наш народ. ЗБС "Бацькаўшчына" магло б паспрыяць прапагандзе ў Краі досьведу й ідэі БАПЦ.

## ПРАЗ НАС ПІШУЦЬ

Няёмка й дарэмна гаварыць, калі зварочваючыся да каго пазнаеш, што ён ня той, з кім зьбіраўся мець гаворку, а нехта зусім іншы.

Гэтак, якраз, і здарылася ў нашай размове з газэтай "Наша Слова", якую мы лічылі за ворган Таварыства Беларускае Мовы ймя Франьцішка Скарыны, а яна выявіла сябе голасам Маскоўскага Патрыярхату.

Як-жа бо йнакш зразумець нягодную атаку на Беларускую Аўтакефальную Прваслаўную Царкву й на "Царкоўнага Пасланца" У.Панады, што была зьмешчаная на бачынах газэты ў леташнюю восень ды нядужа ласкавы нядаўні водгук на адказ "Царкоўнага Пасланца" ў справе зробленага гэтым аўтарам нападу.

Праўда, газ. "Наша Слова" ў # 19 з травеня г.г. цалком уставіла ў ейную зацемку "Піша "Царкоўны Пасланец" тое, што рэагуючы на твор сп. У.Панады, мы напісалі ў # 1/38/48 нашага часапісу, але аправіла гэта ў рамку камэнтару, які не пакідае сумневу да ейнае згоды з паглядамі ўспомненага абаронцы "рускае веры".

Нягледзячы на мізэрны вынік гэтак кароткае палемікі, зачыняючы яе мы не шкадуем, што яна адбылася, бо зь яе выявілася разыходжаньне паміж спадзяваньнямі на рэдакцыю воргану арганізацыі, якая мае змагацца за беларускую мову, а заадно, хіба й за іншыя адраджэнскія мэты, ды ейнымі дзеямі.

Верная бо служба Маскоўскаму Патрыярхату, мэты якога цалком супрацьлежныя нацыянальна-адраджэнскім імкненьням Беларускага народу, ды апаганьваньне спрыяльнае й паможнае ў гэтых мкненьнях сваё роднае, незалежнае ад Масквы, Праваслаўнае Царквы й змаганьне супраць яе, нічога іншага як здрадніцтва.

На тую ж самую ацэнку працы журналіста У.Панады наводзіць допіс пад ягоным прозьвішчам у газэце Беларускага Экзархату РПЦ "Царкоўнае слова" (# 6, 1996), дзе аўтар ганіць нядаўна выбіты ў Беларусі ордэн Кастуся Каліноўскага, бо апошні, паводле аўтара, выступаў супраць расейскага праваслаўя.

Пасьля прыкрага й непатрэбнага перастрэлу, здавалася-б, із сваймі, прыемна, чытаючы ўзноў напісаны сп. Лесям Турам ў газэце "Культура" # 12 з сакавіка г.г. кароткі агляд калядняга, гэтым разам, нумару "Ц.П.", пераканацца, што цывілізаванасьць і журналісцкая этыка ў нашым Краі яшчэ цалком не выпра-дадзеныя.

Не займаючы бо становішча да закранутых у "Ц.П." справаў і тэмаў сп. Лесь Тур патрапіў прадставіць чытачу ягонае зацемкі вобраз зьместу часапісу й гэтым зацікавіў яго з тым зьместам пазнаёміцца, ды стварыць аб ім собскую думку.

З удзячнасьцяй трэба яшчэ ўспомніць, што рэдакцыя горадзенскае газэты "Пагоня" ў выдадзеным на Вялікдзень нумары, які, нажаль, да нас не дайшоў, зьмясьціла Вялікоднае прывітаньне ад Я.М. Мітрапаліта Ізяслава праваслаўным беларусам на Бацькаўшчыне ды ў сьвеце.

Дай-жа, Божа, каб за прыкладам "Культуры" ды "Пагоні" ў недалёкай будучыні пайшлі й іншыя беларускія патрыёты.

ЗАПРАШАЕМ ДА СУПРАЦОЎНІЦТВА
ЎСІХ,
КАМУ ДАРАГАЯ ІДЭЯ
**ПРАВАСЛАЎНАЕ АЎТАКЕФАЛІІ**
**Ў БЕЛАРУСІІ**
НАШ АДРАС:
**220005 Мінск-5, а/с 185, "Ц.П."**

ВІНШУЕМ
ПАВАЖАНАГА ПІСЬМЕНЬНІКА

**ЯНКУ ЮХНАЎЦА**
**з 75-годзьдзем!**

*Рэдкалегія "Царкоўнага Пасланца"*

## ПАДЗЯКА Й ЗАКЛІК

Дзякуй Богу й добрым, ды ахвярным чытачам нам узноў пашчасьціла зрабіць далейшы крок на выдавецкім шляху "Царкоўнага Пасланца" й надрукаваць ягоны чарговы нумар з большым лікам бачынаў.

Нажаль гэты крок не дае прычыны на ўрачыстасьць, бо, каб ступіць яго, зь нястачы грошай, давялося некалькі разоў адлажыць летні нумар ды, урэшт, злучыць у падвойны з восеньскім.

Але ў нашых абставінах, дзе асабістыя наравістасьці й сьмеху вартыя "палітычныя" разыходжаньні, а найбольш мо варожыя падбухторваньні не даюць розуму пазнаць нацыянальную карысьць, і гэта трэба лічыць асягненьнем.

Ня ведаем, ці нашая радасьць з гэтага асягненьня патрывае даўжэй, але зробім усё залежнае ад нашых сьціплых сілаў, каб яна не абярнулася ў сумаваньне, а была задаткам далейшага росту.

Спадзяемся, што гэты рост падтрымае больш, як дагэтуль, нашых чытачоў на эміграцыі, стаўшы, зь бясплатных карыстальнікаў з друкаванага слова, маральнымі й матарыяльнымі ўспамагатымі, ды дабрадзеямі нашага часапісу.

Ня трэба на гэта ўрэзваць жыцьцёвых патрэбаў, бо раўнуючы да іншых выдаткаў, невялікая ахвяра ад кожнага чытача, пры дармавой працы Рэдакцыйнае Калегіі, забясьпечыць працяг добрае справы.

Што справа, якую мы робім, добрая й дагодная Богу, ды карысная Беларускаму народу мы ня сумняваемся, бо іншага пэрыядычнага выданьня, што пашырала-б ідэю аўтакефаліі Праваслаўнае Царквы ў Беларусі, няма, а супраціўных ёй заваль.

Нашыя бо ворагі добра разумеюць выдатную вагу царквы ў станаўленьні нацыянальнае сьведамасьці й у асягненьні дзяржаўнае незалежнасьці ды, акрыўшыся крыжам і пабожнымі словамі, ідуць зьнішчальным паходам на дадзеныя Богам асаблівасьці Беларускага народу.

Сярод нас, што называем сябе адраджэнцамі й патрыётамі, гэтую праўду, нажаль, мала хто ўсьведамляе, а яшчэ менш паводле яе дзее.

У выніку гэтае сьлепаты, ці нядбайнасьці й зьявілася адкрытае поле для прамаскоўскае палітыкі дзяржаўнае

ўлады ў супалцы з Экзархатам Расейскае Праваслаўнае Царквы ў Беларусі, што дало магчымасьць нашым адвечным ненавісьнікам 2-га красавіка г.г. нятолькі асягнуць ліквідацыю незалежнасьці нашае Бацькаўшчыны, але й "усьвяціць", ды замацаваць гэтае злачынства кадзілам і крапілам.

У аблiччы гэткага ашуканства й зьдзеку з Божых наказаў, ды людзкое справядлівасьці, тыя з нас, што шануюць Божае слова й захоўваюць у сэрцах патрыятычныя пачуцьці, ня могуць застацца абыякавымі й бязьдзейнымі, а павінны даць сьветчаньне іхнаму абурэньню й супрацьву да гвалту дзеямі, сярод якіх падтрыманьне голасу за ўзнаўленьне на Бацькаўшчыне патрыятычна настроенае й спрыяльнае нацыянальнаму адраджэньню Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, якім ёсьць "Царкоўны Пасланец", не павінна быць на апошнім мейсцы.

Дык, Дарагія Чытачы за межамі Беларусі, чакаем на довады Вашае вернасьці Божым і беларускім нацыянальным мэтам як-магчыма шчодрымі ахвярамі ад Вас на выдавецтва "Царкоўнага Пасланца".

Нашых-жа Чытачоў на Бацькаўшчыне заклікаем ня зьнеахвочвацца нялюдзкімі абставінамі жыцьця ў Краі, а абярнуць іхныя пабожныя й патрыятычныя ймкненьні ў працу пры кожнай магчымасьці на ўзнаўленьне свае роднае Царквы ды Дзяржавы, каб адтуль да нас за мяжу, а не наадварот, ішоў голас Божае Праўды й нацыянальнага ўздыму.

На заканчэньне хочам з глыбокай удзячнасьцяй паставіць у прыклад іншым імёны дарбітаў, што іхнымі ахвярамі, як пададзена ніжэй, зрабілі выданьне гэтага нумару "Царкоўнага Пасланца" магчымым:

А. пprсв. Ян Абабурка - 32.40 д., М.Белямук - 20.00 д., О.Буран - 5.00 д., Б.Даніловіч - 5.00 д., Б.Данілюк - 85.33 д., Ю.Васілеўскі - 20.00 д., Ю.Весялкоўскі - 10.00 д., Р. Галяк - 20.00 д., Р.Гарошка - 50.00 д., Кансысторыя БАПЦ - 150.00 д., а. ппрсв. В.Кендыш - 50.00 д., а. ппрсв. А.Кулакоўскі - 23.76 д., Ул.Курыла - 50.00 д., Ул.Машанскі - 20.00 д., др. М.Смаршчок - 30.00 д., а. прат. К.Стар - 15.00 д., І.Сядура - 10.00 д., а. прат. М.Таўпека - 20.00 д., Л.Юрэвіч - 10.00 д.., Я.Юхнавец - 5.00 д., О.Яськевіч - 50.00 д.

Асабліва моцную падзяку выказваем Я.М. МІТРАПАЛІТУ ІЗЯСЛАВУ, А. ППРСВ. В. КЕНДЫШУ, Спадарыням і Спадарам Р. ГАЛЯК, Р. ГАРОШКА, Б. ДАНІЛЮК, Ю. КАСЬЦЮКЕВІЧ, Р. КУЛАКОЎСКАЙ, УЛ. КУРЫЛА, І. СЯДУРА й О. ЯСЬКЕВІЧ, што ахвяравалі па 50 і больш даляраў на выданьне "Царкоўнага Пасланца" ды, гэткім чынам, сталі фундатарамі (спонсарамі) часапісу ў 1996-м годзе.

Каб мы мелі 40, ці 50 гэткіх дабрадзеяў кожны год, існаваньне "Царкоўнага Пасланца" было-б забясьпечанае.

Яшчэ дзякуем за атрыманьне ахвяраў ЗАМЕСТ КВЕТАК НА МАГІЛУ СЬВ. ПАМ. МІКАЛАЯ ВОЙТЭНКІ ад Сп-ва М. і А. Грэбень - 20.00 д. і ад Сп-ва Б. і М. Данілюкоў - 50.00д.

Няхай Бог верне ўшматраз нашым Дабрадзеям за іхную шчодрасьць!

**Рэдакцыйная Калегія "Царкоўнага Пасланца"**

BELARUSIAN AUTOCEPHALOUS
ORTHODOX CHURCH
ST. CYRIL'S of TURAU CATHEDRAL
401 Atlantic Ave., Brooklyn, N.Y. 11217
CHURCH MESSENGER
Vol. 24, No. 2-3, Summer-Fall 1996
ISSN 1085-973x

ADDRESS CORRECTION REQUESTED
RETURN ADDRESS:
P.O. BOX 5982
SOMERSET, N.J. 08875-5982

NONPROFIT ORG.
U.S. POSTAGE
PAID
SOMERSET, N.J.
PERMIT NO. 44